# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 14—15 (549—550) Вялікдзень 1961 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Божай Міласьцю

## Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА Й УСІХ БАГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ.**

## Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне

**УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!**

Адкуль гэта штогоду, у цудоўную поўнач, па ўсім сьвеце раздаецца велічная й радасная вестка: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Хто яе прыносіць нам? Яе прыносяць нам Ангелы зь Неба: «Што шукаеце жывога між памерлымі? Яго няма тут: Ён УВАСКРОС!» (Лк. 24, 5-6).

І душамі сваімі мы адчуваем гэты далёкі сьпеў Ангелаў, якія славяць Уваскрасеньне Хрыстовае ў Нябёсах. Памалу сьпеў гэты зыходзіць на зямлю, прыбліжаецца да нас, і мы ўжо разам з Ангеламі натхнёна пяем: ХРЫСТОС УВАСКРОС із мертвых, сьмерцю сьмерць паканаў, і тым што ў грабох, жыцьцё дараваў! І новае, сьветлае, радаснае жыцьцё магутнымі хвалямі ўліваецца ў нашыя душы, абнаўляе іх, падымае на вышыні Нябесныя! Чалавек у гэты слаўны мамэнт адчувае боскасьць душы свае, чуе словы Госпада: «Хоць і сказаў Я: вы — багі, усе вы сыны Усявышняга» (Пс. 81, 6).

І ня дзіва, што ў гэты слаўны мамэнт бясконцае Любові Божае да нас, мы забываемся на ўсе свае турботы й клопаты, смуткі й жалі, бо-ж мы ўжо падняліся вышэй сябе, выйшлі з свайго сьмяротнага цела, злучыліся з Ангеламі і на крыльлях Вялікоднае радасьці падняліся на такую вышыню, дзе ўжо няма ніякае варожасьці й зла, дзе ўжо матэрыя пераможаная духам, дзе ўжо людзі твораць адну брацкую сямейку, адно Цела з Хрыстом, Каторы ЎВАСКРОС, пекла-сьмерць перамог, каб і нас уваскрасіць да жыцьця вечнага, падняць ад зямлі да Неба. Таму мы так натхнёна й сьпяваем на Вялікдзень: Учора пахавана мяне з Табою, а сяньня: Ты ЎВАСКРОС, і я ўстаю з Табою!

Устаю, каб падобна Жонам Міраносіцам і сьв. Апосталам, стацца прычасьнікам Боскае Славы Твае, каб разам з Табою натхнёна ўсклікнуць усім сваім суродзічам: Радуйцеся! Радуйцеся, бо радуюцца й весяляцца Неба й зямля, увесь сьвет, усякае стварэньне, бо зямля ўжо ізноў злучылася зь Небам! Бо пракляцьце ўжо зьнятае зь яе, бо па ёй хадзіў Сам Бог у нашым целе, багаславіў яе, і ўсіх нас! Так, Ласка Божая на Вялікдзень зьзяе ня толькі ў сэрцах і душах нашых, але й па ўсей зямлі. Усё кругом радуецца й весяліцца, бо настаў час перамогі Неба над пеклам, дабра над злом, свабоды над няволяю, бо-ж Сам Творца ўсяго сказаў: Радуйцеся!

І ў гэтай радасьці сваёй мы гатовыя зь любоўю абняць увесь сьвет, кажнага, навет няпрыяцеля, абдарыць чыстым Вялікодным пацалункам, кажнаму сказаць: браце, радуйся! Бо: ХРЫСТОС УВАСКРОС! І нам жыцьцё вечнае дараваў! І мы, як вашыя Архіпастыры, сьпяшым падзяліцца з вамі, дарагія браты й сёстры, гэтаю сьвятою Вялікоднаю радасьцю ўсюды: на выгнаньнях, удома, на катаргах і высылках, у духу сваім усіх вас абыймаем і цалуем. Усім вам жадаем той радасьці нязбыўнай, якая яшчэ так нядаўна зьзяла ў сэрцах нашых суродзічаў на Вялікадзе у нашай любай, слаўнай, веснавымі краскамі ўквечанай Беларусі!

Нехай-жа ня сумуюць сэрцы вашыя, што нашая любая Бацькаўшчына ўсё яшчэ перажывае сваю галготу. Адсюль, з вольнага сьвету, мы пашлем нашаму шматпакутнаму народу радасную вестку: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Кажная галгота канчаецца ўваскрасеньнем, таму ўваскрэсьнеш і ты, нашая любая Маці Беларусь! Пераможнае Сьвятло ўваскрасеньня Хрыстовага ўсё мацней зьзяе ў цемры нашае паняволенае Бацькаўшчыны, і ніякая «цемра бязбожніцтва не агарнула яго» (Ію. І, 5). І гэта сьветчыць нам, што Ласка Божая прабывае з народам нашым. Неўзабаве шчэзнуць як дым усе ворагі Госпада Бога нашага. З волі Яго Ангел абвесьціць: «Упаў, упаў Бабілён, места вялікае, бо злобным вінόм блудаў сваіх напаіў усе народы» (Адкр. 14, 8).

Таму, радасна славячы вялікую перамогу



Госпада, будзем прасіць Яго, каб Ён, вызваліўшы нас з палону шатана, вызваліў і наш слаўны народ зь ярма яго. Каб хутчэй прыйшоў той для нас Вялікі Дзень, калі мы вернемся на сваю вольную Бацькаўшчыну, і радасна прывітаем нашых суродзічаў: ХРЫСТОС УВАСКРОС!, нашыя дарагія пакутнікі. Час вашага вызваленьня прыйшоў! І гэта станецца, бо-ж Сам Збаўца наш сказаў: «Неба й зямля прамінуць, але словы Мае не прамінуць» (Мц. 24, 32). А Ягоная воля, гэта: свабода ўсіх людзей і народаў, як дзяцей Божых.

І з гэтаю Вераю, Любоўю й Надзеяй на шчасьце вечнае, і скорае вызваленьне нашае любае Бацькаўшчыны, вітаем вас, усячэсныя Айцы, Браты й Сёстры, і ўвесь наш Беларускі Народзе зь Вялікім і Сьветлым Сьвятам, трыюмфам Неба й зямлі: УВАСКРАСЕНЬНЕМ, ХРЫСТОВЫМ! Зь любові да Госпада Бога і да свае Бацькаўшчыны дзеля яе ўваскрасеньня адкінем усякую нязгоду, «абыймем адзін аднаго, усё выбачым дзеля Уваскрасеньня». Будзем стала ўзмацняць нашую родную сьв. Беларускую Царкву шляхам узаемнае пашаны й любові, і Ласка Божая памножыцца нам: устане з грбу свайго нашая пакутніца Маці-Беларусь!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і прысутнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

**ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ**
Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

**ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне

Дана Году Божага 1961
месяца красавіка
Аўстралія-Амэрыка

# Дарагія ў Хрысьце Беларусы!

Сьвята Ўваскрасеньня Хрыста ёсьць сьвятам найвялікшай перамогі: сьвятла над цемрай, дабра над грэхам, жыцьця над сьмерцяй. «А калі Хрыстос не ўваскрос, дык і навука наша дарэмная, дарэмная й вера вашая», — пісаў дзесь у палавіне першага стагодзьдзя Апостал Павал да вернікаў Карынту.

Царква навучае, што Хрыстос праз свае цярпеньні й крыжовую сьмерць выслужыў нам жыцьцё вечнае. Вось такім наяўным паказьнікам і доказам будучага нашага жыцьця зьяўляецца ўваскрослы Хрыстос. «Калі-ж аб Хрысьце апавядаецца, што ён уваскрос зь мёртвых, дык як некаторыя з вас кажуць, што няма ўваскрасеньня мёртвых?» (І Кар. 15, 12).

Так-жа Хрыстос выслужыў нам надпрыроднае жыцьцё, называнае інакш жыцьцём ласкі, якое ёсьць умовай агляданьня Бога «аблічча у ваблічча».

Кажнае жыцьцё ёсьць праявай нутранага прынцыпу. Для надпрыроднага жыцьця ёсьць неабходным жыць з Хрыстом. Успомнены ўжо Апостал Павал у сваім пасланьні да Галятаў цьвердзіў: «Я раскрыжаваны разам з Хрыстом. І ўжо ня я жыву, але жыве ўва мне Хрыстос! (Гал. 2, 20).

Жыцьцё найменшай істоты на сьвеце ёсьць вялікім цудам. Калі-б хто змог ажывіць маленькі каменьчык, дык ён даканаў-бы магутнейшага пачыну, чымся пусьціць ракету ў міжзор'е.

Часта аднак, як у матарыяльным, гэтак і ў духовым сьвеце сьмерць — прыналежнасьць жыцьця — зьяўляецца неабходнасьцю для **новага** жыцьця. Хрыстос сам аб гэтым гаварыў: «Запраўды, запраўды кажу вам, калі зерне пшанічнае, упаўшы ў зямлю, не замрэ, то астанецца само адно: а калі замрэ, то дасьць багаты плод.» І тут-жа пераходзячы да высьненьня надпрыроднага жыцьця далей Хрыстос казаў: «Хто занадта даражыць сваёю душою, загубіць яе; а хто не шчадзіць душы свае на гэтым сьвеце, той захавае яе на жыцьцё вечнае» (Ян, 12, 24-25).

Сьмерць Хрыста з кажнага гледзішча была трагэдыяй для яго самога, для жыдоўскага выбранага народу, — аднак яна была ўмовай зусім новага жыцьця для самога Хрыста й для нас «А ўсім тым, што прынялі Яго, даў магату стацца сынамі Божымі тым, якія вераць у імя Ягонае» (Ян. 1, 12).

У несправядлівым прысудзе на Хрыста быў асуджаны прарок з Галілеі, сын чалавечы, Збаўца доўга чаканы. Калі пару напалоханых асоб палажылі цела Хрыста ў гроб, здавалася, цяжкі камень прыдушыў і ўсё тое, аб чым Хрыстос навучаў, за што змагаўся. Здавалася загіне памяць аб дзіцяці Бэтлеему, аб ціхім работніку з Назарэту, аб галілейскім цудатворцы і настаўніку жыдоўскага народу і ўсяго людзтва...

Да Ўваскрасеньня Хрыста й Яго ідэялаў, што разам зь ім зыходзілі ў магілу, патрэба было цуду. І ён стаўся. На трэйці дзень, так як сам прадсказаў, выйшаў з гробу, не нарушаючы пячацьцяў, пакідаючы непарушанымі рубцы палотнішчаў, што закрывалі сьвятое Яго цела.

«Ня бойцеся, — казаў ангел жанчынам ля гробу — бо ведаю, што вы шукаеце Езуса ўкрыжаванага. Яго няма тут: Ён уваскрос, як і сказаў. Хадзеце й пагляньце месца, дзе Господ быў паложаны» (Мац. 28, 5-6).

Хрыстос, перамогшы сьмерць, пачаў жыць новым жыцьцём. Больш ён не цярпеў, не адчуваў **смагі, матарыяльных** перашкодаў. Ён быў у поўным значаньні Валадаром славы.

Так як цешыліся шчыра Апосталы й сьвятыя жанчыны зь перамогі Хрыста, так цешуцца сяньня ўсе хрысьціяне, сьвяткуючы гадавіну Яго Ўваскрасеньня.

Можа ніхто так глыбака і ў так прыгожай паэтычнай форме не апісаў запраўднай радасьці чыстай хрысьціянскай душы, як гэта зрабіў сьв. Ян Дамаскін, якога г. зв. залаты канон сьпяваецца ў Усходняй Царкве на вялікай вутрані.

Усё — неба й зямля, цэлы сусьвет заклікаюцца да радасьці, бо Хрыстос уваскрос!

«Няхай нябёсы належна цешуцца, зямля радуецца, няхай сьвяткуе сьвет цэлы бачаны й нябачны: Хрыстос бо ўваскрос, вечная радасьць».

«Цяпер усё напоўнілася сьвятлом: неба, зямля й апраметная, няхай сьвяткуе ўсё стварэньне Хрыстова зьмёртвыхпаўстаньне, у ім бо наша моц».

Зусім у тым самым духу і адчуваючы тую самую радасьць Царква ў лацінскім абрадзе сьпявае праславуты твор у Вялікую Суботу пры пасьвячэньні вады, які пачынаецца славамі: «Exultet iam angelica turba coelorum...» — «Няхай цяпер радуецца грамада нябесных духаў...»

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Дарагія ў Хрысьце Беларусы!

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Дарагія Браты й Сёстры!

Перажываючы гэтае вялікае радаснае сьвята, не зважаючы на ніякія абставіны нашага жыцьця, мы павінны **цешыцца зь перамогі Хрыста,** які «ўваскросшы зь мёртвых ужо больш не ўмірае і сьмерць ня будзе больш ім валадарыць» (Рымл. 6, 9).

Далей прыймаючы спакойна Божы прысуд, што кажнаму з нас трэба памерці, мы аднак павінны мець вялікую надзею на тое, што як для Хрыста сьмерць была пераходам да вечнай славы, гэтак і для кажнага добрага хрысьціяніна сьмерць ня ёсьць больш тым страшным тыранам, забіваючым цела й душу, а толькі канечным пераходам да новага лепшага жыцьця. «Жыву ў веры Сына Божага, які ўмілаваў мяне» (Гал. 2, 20).

У канцы перамога Хрыста ёсьць перамогай праўды над хвальшам, любові над злосьцяй, ёсьць праслаўленьнем Яго крыжовай дарогі.

У дачасных дачыненьнях так-жа, калі мы церпім несправядліва, можам мець пэўнасьць, што нашыя цярпеньні ня пойдуць на марна. Бывае яно й так, што цэлыя народы церпяць праходзячы свой крыжовы шлях. Мы пераканаrныя, што ў сучасных абставінах і шлях нашага народу падобны да той дарогі крыжовай Хрыста. Наш народ сяньня ня толькі галодны й босы на сваей роднай зямлі, але навет ня мае права выказаць перад сьветам стану сваей нядолі.

Таму для нас радасьць уваскрослага Сына Чалавечага павінна стацца сілай усёнароднай. Дай Божа нам толькі большай веры ў Яго самога, у Яго праўду, а тады ня страшны нам будуць цярнёвыя вянкі й крыжы, як у жыцьці асабістым, так і ў вагульна-нацыянальным.

Усклікнем-жа мы тады з радасьцю й сілай тое магутнае: «Хрыстос Уваскрос!» і будзьма пэўнымі, што ўвесь наш народ адклікнецца зь непахіснаю вераю: «Узапраўды ўваскрос!»

Гэтая вера нашага народу ёсьць зарукай той хвіліны, калі ён, здабыўшы запраўдную незалежнасьць і волю, дасьць належнае месца Хрысту Ўваскросламу ў сваіх сьвятынях.

† Чэслаў СІПОВІЧ
Біскуп тыт. Марыямітанскі
З назначэньня Апост. Рымскага Пасаду
Візытатар Беларусаў каталікаў.

**Рым, дня 2 красавіка 1961 г.**



# Вялікодныя рэфлексіі

Ізноў Сьвяты Вялікдзень. Зноў ад чужынскіх сьвяткавальных цэрэмоніяў і перажываньняў душой і сэрцам уцякаем у незабыўную мілую мінуўшчыню, у родны край, дзе кажны з нас у свойскім дарагім сэрцу асяродзьдзі з багавейна-радасным уздымам яго абходзіў. Маю наўвеце сярэднюю й старэйшую векам нашую эміграцыю, што яшчэ не забылася красы роднае зямлі, родных сьвятыняў зь іх абрадамі па местах і сёлах ды прабацькоўскімі традыцыямі й звычаямі, што ўсё яшчэ захоплена незабуднаю рэзурэкцыйнаю мэлёдыяю:

Вясёлы дзень для нас настаў,
Якога цэлы сьвет жадаў,
Сягоньня Хрыстус з гробу ўстаў!
Алелюя, Алелюя, Алелюя!

Самы ўспамін аб гэтым Сьвяце на бацькаўшчыне падыймае нас на духу й красае ўцешную радасьць, паміма бяздольля тут выгнанскага, а там акупанцкага, расшыраючы сэрца для ўсіх, навет для ворагаў, — радасьць з найбольшага цуду Хрыстовага Згробуўстаньня, перамогі Праўды й Жыцьця над няпраўдай і нежыцьцю.

Пэўне-ж, гэткая радасьць пасхальная найболей ахоплівае тых, што ў цэласьці ашчадзілі надпрыродную хрысьціянскую веру, а зь ёю разам і ўпадобу да народна-рэлігійных традыцыяў. Беларуская душа на чужыне — і тая ўсьпеўшая крыху прыгразнуць у збыткоўнасьці й тая няўсьпеўшая але прагна зайздросьцячая духазабойчага люксусу й падатная на ліхі ўплыў, аслабела ў надпрыроднай веры, калі й цалком яе не затраціла, — ня будзе адчуваць сьвяткавальнай радасьці ды карыстаць з ласкаў найбольшага Збавіцелявага цуду. Да гэткай душы ня маюць доступу ні глыбокі зьмест пасхальных абрадаў, ні прастарыя мэлёдыі літургічныя. У гэткае сьвята яна сярод сваіх пачувае сябе больш чужою, як у будні. Адстаючы ад рэлігійнага абычаю, яна паволі адчужаецца ад роднай грамады. І калі яшчэ нейкая палітычная нітка вяжа яе праз нейкі час із сваімі, дык гэта не надоўга. Раней ці пазьней гэткі асабняк расплывецца із сваімі нашчадкамі бясьсьледна ў чужым моры. Маем на гэта ня мала прыкладаў ці то сярод інтэлігенцыі, ці поўінтэлігенцыі.

І калі загінула нашая старая эміграцыя ў тым моры, дык галоўнаю прычынаю гэтага была адсутнасьць згрупаванага свайго роднага жыцьця рэлігійнага, утрымоўваючага свае нацыянальныя асаблівасьці, свой родны глыбока рэлігійны дух. Згэтуль для нас навука: якнайхутчэй і найэнэргічней на гэтым полі групавацца, арганізавацца й усамастойнівацца, калі хочам абараніць, захаваць нашае духовае «я»! Заміж наракаць на фатальную расьцярушанасьць — за ўсякую цану ліквідуйма яе! Свой да свайго — безадкладна! Заміж скардзіцца на няспрыяльнасьць каньюнктураў, неразуменьне адказных уладаў — уважней прыгледзьмася да рэчаіснасьці. Не заўсёды бо так ёсьць.

Незабуднай памяці Папа Піюс XII сваёй Канстытуцыяй „Exsul Familia“ («Выгнанская Сям'я») забавязвае ўсе каталіцкія народы й дзяржавы Захаду памагаць эмігранцкім групам асобных народаў прынамся да другога пакаленьня, улучна выхоўваць іхных дзяцей у іхным уласным нацыянальным духу, практыкаваць родныя традыцыі, вучыць роднай мовы, літаратуры й гісторыі роднага краю. Гэная Апостальская Канстытуцыя адначасна забавязвае ў сумленьні сьвятароў ды сьвецкіх каталікоў эмігранцкіх нацыяў, каб яны із свайго боку натужна рупіліся ратаваць братоў сваіх для роднага народу, выхоўваючы маладое пакаленьне ў рэлігійным духу й народнай традыцыі. На падставе вось гэтага так аўтарытэтнага дакуманту мы пры нашым гуртаваньні можам дамагацца ад мясцовых духоўных уладаў прызнаньня й помачы. Талковая станоўкасьць тут пераможа перапоны.

У тым-жа самым часе, калі Апостальскі Пасад стануў у вабароне духовага й нацыянальнага ды культурнага разьвіцьця эміграцкіх нацыяў з Усходу, бальшыня пераможных дзяржаваў на Захадзе зь іхнімі дапамаговымі арганізацыямі станулі на становішчы поўнае інтэграцыі ўлучна з дэнацыяналізацыяй эмігрантаў.

Ці нашае аднак нараканьне на гэткія цянёты цалком апраўданае? Нельга сказаць гэтага, пакуль ня выкарыстаем магчымасьцяў там, дзе яны ёсьць, пакуль не пакінем дэзэртыраваць перад цяжкасьцямі, вымагаючымі няраз масава дружнага вытрыманага штурму. Як цяпер, напрыклад, калі ў нас распачатая справа герархічных і душпастырскіх засноваў …

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Пад знакам рэальнай палітыкі

У сілу благой традыцыі Захад не пазбыўся яшчэ й сяньня нярэальных мэтадаў ліквідаваньня гнёздаў камуністычнае агрэсіі ў розных пунктах вольнага сьвету шляхам кампрамісаў і нэўтралізацыі тэрыторыяў, на якія пасягаюць камуністыя. Сумныя вынікі такой палітыкі поўсяродкаў у Карэі, Індакітаі й іншых пунктах камуністычных пасяганьняў, нажаль, нічога не навучылі заходніх палітыкаў і ня пераканалі іх, што шуканьне кампрамісаў з камуністымі ня ліквідуе канфліктаў, а толькі прадаўжае іх у бесканечнасьць.

Камуністыя із свайго боку звычайна згаджаюцца на кампрамісы й нэўтралізацыю толькі ў тым выпадку, калі чуюцца слабымі на сілах. У праціўным-жа выпадку адкідаюць усякія нэўтралістычныя праекты, уважаючы, што замест дзяліцца сваёй здабычай з праціўнікам, лепш усю яе ўзяць для сябе.

### Плачлівыя вынікі нэўтралізацыі Ляосу

Яркім сьвежым прыкладам такой палітыкі зьяўляецца ў першую чаргу Ляос, адна з трох вольных краінаў паўдзённага Індакітаю, якая, пасьля задоўжанай вайны між камуністымі паўночнага Індакітаю пад правадырствам Го-Чы-Міна супраць Францыі, пастановай Жэнэўскай канфэрэнцыі 1954 году была абвешчаная незалежнай нэўтральнай дзяржавай.

Пасьля некалькіх год адноснага супакою, ад даўжэйшага часу на тэрыторыі паўночнага Ляосу вядуць збройную акцыю камуністычныя паўстанцы Патэт Ляо, яўна ўспамаганыя камуністычным паўночным Ветнамам, чырваным Кітаем і асабліва Савецкім Саюзам. Збройныя камуністычныя банды, дзякуючы выдатнай савецкай помачы аружжам і іншымі матарыяламі, патрэбнымі для вядзеньня збройнай акцыі, паступова, але сыстэматычна пасоўваюцца наперад і знаходзяцца ўжо ў дваццацёх мілях ад сталіцы Ляосу Люанг Прабанг.

Амэрыка, якая аказвае мілітарную і ўсякую іншую дапамогу антыкамуністычным каралеўскім сілам Ляосу, а апошнім часам гэтую дапамогу яшчэ ўзмоцніла, вядзе сваю палітыку пад лёзунгам незалежнасьці й нэўтральнасьці гэтае краіны. Ня будзем тут уваходзіць у падрабнасьці амэрыканскай дыпляматычнай акцыі з мэтаю заканчэньня збройнага канфлікту й выратаваньня Ляосу ад камуністычнае загрозы, бо аб гэтым мы шырака пісалі ў № 4 «Бацькаўшчыны». Задзержымся адно на найсьвяжэйшым стане падзеяў.

18-га сакавіка адбылася ў Вашынгтоне пяцігадзінная канфэрэнцыя амэрыканскага дзяржаўнага сакратара Дына Раска із савецкім міністрам замежных справаў Грамыкам у справе неразьвязаных заходня-ўсходніх праблемаў, у тым ліку і ў справе сытуацыі ў Ляосе. Калі савецкі міністар выказаў зычэньне спэцыяльна прыбыць у Вашынгтон, каб адбыць першую пры новым амэрыканскім урадзе канфэрэнцыю на міністарыяльным узроўні, у Амэрыцы ажыла надзея, што савецкае гледзішча на справы Ляосу зьмянілася й што Грамыка прыяжджае з новымі інструкцыямі.

Тымчасам Грамыка паўтарыў ранейшы пункт гледжаньня Савецкага Саюзу. Ён заявіў, што Савецкі Саюз пасылае ваенную помач паўстанскаму пракамуністычнаму ўраду Патэт Ляо, бо ўважае яго законным урадам Ляосу, і адкінуў амэрыканскія прапазыцыі зьліквідаваньня збройнага канфлікту шляхам поўнае нэўтралізацыі Ляосу. У вадказ на гэта амэрыканскі ўрад заявіў, што калі Саветы будуць прадаўжаць сваю мілітарную акцыю ў Ляосе, дык Амэрыка будзе змушаная ў найбліжэйшых днях прыняць радыкальныя меры. Не падлягае сумлеву, што пад гэтымі радыкальнымі мерамі трэба разумець ужыцьцё Амэрыкай збройнай сілы дзеля спыненьня камуністычнай агрэсіі ў Ляосе.

Пакуль што цяжка гадаць, які абарот прыме ляоская справа ў найбліжэйшай будучыні. Ясным на сяньняшні дзень астаецца тое, што палітыка кампрамісаў з камуністымі й намаганьнямі нэўтралізацыі Ляосу пацярпелі поўную няўдачу.

### Конго выбрала правільны шлях

Падобныя палітычныя мэтады намагаўся Захад тарнаваць і ў Конго. Ужо тады, калі яшчэ толькі зарысоўваліся ў Конга дзьве супрацьлежныя сілы: нацыянальныя антыкамуністычныя, рэпрэзэнтаваныя законна выбраным прэзыдэнтам Касавубу, галоўнакамандуючым генэралам Мобуту, прэм'ерам правінцыі Катангі Чомбэ і іншымі з аднаго боку і пракамуністычным прэм'ерам Люмумбам — з другога, Задзіночаныя Нацыі намагаліся за ўсякую цану пагадзіць іх і знайсьці між імі кампраміс. Гэта праўдападобна й сталася прычынай сьмерці Люмумбы, бо ягоныя антыкамуністычныя праціўнікі, баючыся, што Задзіночаныя Нацыі будуць навязваць зь ім супрацоўніцтва шляхам нявыгаднага кампрамісу, пастараліся яго зьліквідаваць фізычна.

Пасьля сьмерці Люмумбы Рада Бясьпечнасьці Задзіночаных Нацыяў яшчэ больш настойліва павяла нэўтралістычны курс і ў прынятай 21-га лютага рэзалюцыі пастанавіла ўжыць навет збройныя сілы дзеля спыненьня дамашняй вайны ў Конга. Гэтая пастанова была сьціраваная ў роўнай меры як супраць самазванскага пракамуністычнага ўраду Гізэнгі, вызнанага Савецкім Саюзам разам зь іншымі камуністычнымі й некаторымі нэўтральнымі афра-азіяцкімі дзяржавамі, гэтак і супраць законных антыкамуністычных уладаў Конга.

Таму нічога дзіўнага, што сярод апошніх узьнікла вялікае незадаваленьне й недавер да Задзіночаных Нацыяў. Пачаліся з боку законных уладаў патрабаваньні спыненьня дзейнасьці Задзіночаных Нацыяў у Конго й вываду адтуль войскаў ЗН. Наагул злажылася несамавітая трагічная сытуацыя, што Задзіночаныя Нацыі, прытрымліваючыся палітыкі кампрамісаў і нэўтралізацыі, пачалі паўстрымоўваць нацыянальныя сілы Конга ў іхнай антыкамуністычнай акцыі й выступаць у вабароне пракамуністычных элемэнтаў, якія тварылі сярод насельніцтва адно нязначную мяншыню.

І вось на фоне такіх падзеяў вядучыя палітыкі маладой кангалянскай дзяржавы наважылі без Задзіночаных Нацыяў і навет наўсуперак ім шукаць найбольш адпаведнага для іх выхаду з палажэньня. І гэты выхад шчасьліва знайшлі!

Пайменна, у пачатку сакавіка зьехаліся кангалянскія палітыкі ў сталіцы Мадагаскару Тананарыва й на супольнай канфэрэнцыі, кіраванай прэзыдэнтам Касавубу, 11-га сакавіка аднагалосна пастанавілі стварыць з Конга канфэдэрацыю васьмі незалежных дзяржаваў. Прэзыдэнт Касавубу, які пасьля арышту й сьмерці Люмумбы астаўся адзіным законна выбраным прадстаўніком Конга й за такога-ж вызнаецца й Задзіночанымі Нацыямі мае ачольваць кангалянскую саюзную дзяржаву.

Канфэрэнцыя прыняла рад важных рэзалюцыяў, між імі й рэзалюцыю, у якой патрабуецца ад Задзіночаных Нацыяў ануляваньня прынятай 21-га лютага пастановы аб ужыцьці мілітарнае сілы дзеля спыненьня дамашняй вайны ў Конга. Прэзыдэнт Касавубу ў тэлеграме да прэзыдэнта пленарнай сэсіі Генэральнай Асамблеі ЗН і генэральнага сакратара Гамэршыльда асьветчыў, што дасягнутае на канфэрэнцыі ў Тананарыва пагадненьне адхіляе небясьпеку дамашняе вайны ў Конга. Канфэрэнцыя выказалася супраць умешваньня Задзіночаных Нацыяў у нутраныя справы Конга. Затое канфэрэнцыя пастанавіла, што яна ня мае нічога супраць тэхнічнай і фінансавай помачы з боку ЗН пад умовай, што характар гэтае помачы ня будзе нарушаць сувэрэннасьці Конга.

Удзельнікі канфэрэнцыі асьветчылі, што найвялікшым дасягненьнем нарадаў было стварэньне супольнага фронту супраць камуністычнай інфільтрацыі ў Конго. Яны пастанавілі, што ў выпадку, калі самазванскі пракамуністычны ўрад Гізэнгі, улада якога фактычна расьцягваецца толькі на тэрыторыю будучай сфэдэраванай дзяржавы Орыентале, адмовіцца падпарадкавацца пастановам канфэрэнцыі, будзе ён пастаўлены вонках права й супраць яго будзе сьціраваная супольная вайсковая акцыя.

Гэткім чынам перамагла ў Конго рэальная палітыка самых-жа кангалянскіх палітыкаў, якая мае на мэце абарону нацыянальных інтарэсаў супраць камуністычнай акцыі ў Конго. І гэткім-жа чынам палітыка кампрамісаў з дэструкцыйнымі камуністычнымі сіламі, падтрымліванымі Савецкім Саюзам, пацярпела поўны правал.

Але пастановы канфэрэнцыі ў Тананарыва, хоць і нязвычайна павучальныя й далёка прадбачлівыя, гэта яшчэ толькі першы крок у кірунку нармалізацыі й стабілізацыі палажэньня на собскай нацыянальнай базе. Наперадзе яшчэ шмат цяжкасьцяў. Таму на канфэрэнцыі ў Тананарыва было пастаноўлена адбываць у будучыні сыстэматычна падобныя канфэрэнцыі, якія паступова разьвязвалі-б іншыя пытаньні маладога дзяржаўнага арганізму. Сытуацыя праўдападобна будзе камплікавацца яшчэ ў сувязі зь дзейнасьцяй Гізэнгі, які ў інтэрвью для савецкага агенцтва ТАСС нядаўна заявіў, што ён не падпарадкуецца пастановам канфэрэнцыі ў Тананарыва й надалей уважае сябе законным кіраўніком ураду для цэлага Конга.

Задзіночаным Нацыям цяпер нічога не астаецца, як ляяльна згадзіцца з дакананым фактам і вызнаць пастановы канфэрэнцыі ў Тананарыва. Калі-ж кангалянскім палітыкам удасца ператрываць яшчэ не адну цяжкую пробу й давесьці да канца ажыцьцяўленьне пастановаў гэтае канфэрэнцыі, дык будзе гэта падзея вялізарнага гістарычнага значаньня ня толькі для Конга.

### «Плян Кэнэды» для Лацінскай Амэрыкі

Яшчэ ў часе перадвыбарнай кампаніі Дэмакратычная партыя й ейны кандыдат на прэзыдэнта Кэнэды давалі запэўненьні, што ў выпадку выбарнай перамогі новы амэрыканскі прэзыдэнт у сваей замежнай палітыцы зьверне асаблівую ўвагу на Лацінскую Амэрыку. І ўзапраўды, на прыняцьці паслоў краінаў Паўдзённай Амэрыкі ў першай палавіне сакавіка прэзыдэнт Кэнэды абвесьціў свой дзесяцігадовы плян для Лацінскай Амэрыкі, які адразу атрымаў афіцыяльную назву «Пляну Кэнэды».

Плян гэты складаецца зь дзесяцёх пунктаў і мае на мэце на працягу дзесяцёх год адпаведна падняць жыцьцёвы стандарт кажнай сям'і ў Паўдзённай Амэрыцы, забясьпечыць элемэнтарную школьную асьвету для кажнага дзіцяці й наагул давесьці да такога стану, каб голад у Паўдзённай Амэрыцы быў назаўсёды забыты. У працэсе рэалізацыі гэтага пляну прэзыдэнт вызначыў першую безадкладную помач для гаспадарскага разьвіцьця краінаў Лацінскай Амэрыкі ў суме 500 мільёнаў даляраў і, незалежна ад гэтага, 100 мільёнаў даляраў для Чылі, пацярпеўшага ад землятрасеньня.

Плян Кэнэды для Лацінскай Амэрыкі, які прадугледжвае эканамічную помач, мае перадусім палітычны аспэкт: паўстрымаць камуністычную пэнэтрацыю ў краінах Лацінскай Амэрыкі й зьвязаць іх палітычна з Захадам. «Нью Ёрк Таймс» за 15 сакавіка піша аб гэтым зусім адкрыта: «Як Плян Маршаля быў адказам Задзіночаных Штатаў Сталіну, гэтак Плян Кэнэды ёсьць адказам Задзіночаных Штатаў Фідэлю Кастро».

Галоўнай адзнакай Пляну Кэнэды ў вадрозьненьне ад дасюлешняй амэрыканскай помачы ёсьць тое, што ён не разглядае гэтай помачы, як звычайнай падачкі багатага беднаму, але ўважае Паўдзённаамэрыканцаў за дзейных партнэраў у супольным змаганьні за лепшую й бясьпечную будучыню. Паўночную й Паўдзённую Амэрыку гэты Плян разглядае не як **дзьве** розныя Амэрыкі, але як **абедзьве** Амэрыкі, як зьвязаныя супольным лёсам і супольнымі заданьнямі два роўныя партнэры. У гэтым аспэкце Плян Кэнэды для Лацінскай Амэрыкі зьяўляецца адным з найважнейшых першых палітычных пачынаньняў глябальнага маштабу новага амэрыканскага прэзыдэнта.

### Альжырская вайна дабягае да канца

Альжырская вайна, пасьля шасьцёх год ейнага трываньня, праўдападобна дабягае ўжо да свайго канца. Прадстаўнікі часовага альжырскага ўраду, які рэзыдуе ў Тунісе, і ўрад Францыі, падчас уступных неафіцыяльных і тайных перагавораў, якія былі распачатыя 20-га лютага на тэрыторыі Швайцарыі, прыйшлі да пагадненьня, што ў найбліжэйшым часе распачнуцца афіцыяльныя перагаворы ў справе самавызначэньня Альжыру.

Выдатную ролю ў дасягненьні француска-альжырскага пагадненьня адыйграў прэзыдэнт Тунісу Бургіба, які нядаўна наведаў Парыж і вёў гутаркі з Дэ Голем у Рамбуле. Бургіба зьяўляецца ініцыятарам «Вялікага Магрэбу» — палітычнай канцэпцыі, у рамах якой можа быць шчасьліва разьвязанае й альжырскае пытаньне. «Вялікі Магрэб» прастаўляў-бы сабой сфэдэраваны арабскі прастор паўночна-заходняй Афрыкі, г. зн. Туніс, Марока й Альжыр. Гэтыя сфэдэраваныя краіны мелі-б быць зьвязаныя з Францыяй плянавым Заходня-міжземнаморскім пактам.

Альжырскі экзыльны ўрад і ўрад Францыі згадзіліся распачаць успомненыя перамовы ў ваднэй зь мясцовасьцяў на француска-швайцарскай граніцы. Перад гэтым Францыя ўзалежнівала свае перамовы з альжырскімі паўстанцамі ад папярэдняга спыненьня імі збройнай акцыі ў Альжыры. Але паўстанцы не згаджаліся на спыненьне ваенных дзеяньняў, пакуль ня будуць мець довадаў добрае волі Францыі на афіцыяльнай зь імі канфэрэнцыі. Апошнім часам Французы згадзіліся з дамаганьнямі паўстанцаў, спадзяючыся, што ўжо ў часе самых перагавораў будзе дасягнутае перамір'е.

На дарозе да поўнага паразуменьня й ліквідацыі збройнага канфлікту стаіць яшчэ цэлы рад вялікіх перашкодаў: 1. справа сувэрэннасьці над Сахарай, якую Францыя хацела-б захаваць для сябе, а Альжырцы хацелі-б уключыць у склад альжырскай дзяржавы, 2. справа францускай ваеннай марской базы ў Мэрс-эль-Кэбір на тэрыторыі Альжыру, 3. справа сахарскай нафты, 4. справа будучага статуту для эўрапэйскага насельніцтва Альжыру й інш. Як бачым, справы ўзапраўды цяжкія да разьвязаньня. Тым ня меней, альжырскі экзыльны ўрад асьветчыў, што, на ягоную думку, можа быць знойдзенае такое разьвязаньне, якое задаволіць абодвы бакі.

Гэткім чынам галоўнае заданьне Дэ Голя, якое ўзяў ён на сябе пры пераняцьці ўлады ў Францыі — разьвязаньне справы Альжыру зьяўляецца, здаецца, блізкім свайго канца. Гэта было-б вялізарным дасягненьнем ня толькі для Францыі, але й для ўсяго вольнага сьвету.

**Язэп Каранеўскі**

# Кастусь Каліноўскі

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

Тут можа ўзьнікнуць запытаньне, як гэта Кастусь Каліноўскі й ягоная група наагул маглі дапусьціць ліквідацыю Варшавай **Часовага правінцыяльнага ўраду Літвы й Беларусі,** абвешчанага І лютага 1863 году, і чаму ён пайшоў на кампраміс з гэтай Варшавай, зрабіўшы пераварот у сярэдзіне чэрвеня гэтага-ж году й заснаваўшы новы рэвалюцыйны ўрад — **Камітэт, які кіруе Літвой?** У сваей запісцы з 28 лютага 1864 году, пададзенай сьледчай камісіі, Кастусь Каліноўскі зазначаў, што «паўстаньне, якое, аднак, успыхнула ў Царстве, заставіла Літву зусім непадрыхтаванай у гэтых дачыненьнях...» Як ведама й як ужо ўспаміналася, Кастусь Каліноўскі плянаваў паўстаньне на вясну 1863 году, г. зн. да тэрміну ўвядзеньня ўстаўных грамат аб скасаваньні паншчыны.

Царскі маніфэст з 19 лютага 1861 году пра скасаваньне паншчыны быў прыняты сялянствам не як грамата самога цара, але як «выдумка паноў». Сяляне спадзяваліся большага ад цара, пайменна разам з намінальным скасаваньнем паншчыны бязвыкупнага надзелу іх зямлёй, адабранай у паноў. Маніфэст-жа прадугледжваў надзел сялянства толькі тэй зямлёй, якая заставалася ў іх у часе абвешчаньня гэтага маніфэсту, ды да таго селянін мусіў яе выкупіць у пана ці ў дзяржавы. З 1858 году, г. зн. з часу, калі стала ведама пра скасаваньне паншчыны й пры якіх умовах, паны пачалі сілай адбіраць зямлю ў сялян, прыпісваючы яе да сваіх надзелаў, а ў лепшым выпадку — перасаджваць сялян зь лепшых земляў на пяскі ці балоты. У выніку гэтага ў Ліцьве (Беларусі) пасьля абвешчаньня рэформы й да апублікаваньня маніфэсту 1861 году паны захапілі каля 30% зямлі сялянскіх надзелаў, а лік безьзямельных сялян дасягнуў да 50%. Гэта запраўды пасеяла думку ў сялянства, што яны сталіся абманутымі панамі, а не царскім маніфэстам, і яны пачынаюць чакаць на вясну 1863 году, калі мелася канчаткова разьвязацца іхнае пытаньне.

На гэтую вясну чакаў таксама Кастусь Каліноўскі ці да мамэнту поўнага разчараваньня сялянства ў «царскім дары». Да гэтага часу селянін жыў яшчэ марамі й зь некаторымі засьцярогамі адносіўся таксама да справы Кастуся Каліноўскага. Вось-жа, усё гэта спрычынялася й вызначала адносную слабасьць **Літоўскага правінцыяльнага камітэту** й руху Кастуся Каліноўскага наагул. Як зазначалася вышэй, справа Кастуся Каліноўскага аслаблялася таксама нястачай сьведамага беларускага элемэнту, а таксама людзей, адданых ягонай справе поўнага вызваленьня сялянства, ліквідацыі сацыяльнай няроўнасьці ды абставінамі польскага засільля ў Беларусі. Прымірэньню Кастуся Каліноўскага й ягонай групы з фактам польскага перавароту ў Літве садзейнічаў таксама давер апошніх да польскага паўстаньня, якое на сваім пачатку запраўды адзначалася прагрэсыўным характарам. Ды нарэшце Часовы правінцыянальны ўрад Літвы й Беларусі быў зьліквідаваны брутальнай сілай у выніку чаго й сам Кастусь Каліноўскі застаўся арыштаваны на некаторы час.

Ня было магчымым канчаткова разарваць з Варшавай і пры стварэньню Камітэту, які кіруе Літвой. А гэта з наступных прычынаў. Падчас кіраўніцтва паўстаньнем у Беларусі **Аддзелам, які загадвае правінцыямі Літвы** (Варшава) развой паўстаньня тут затрымаўся ды паступова стаў спадаць. Польскае кіраўніцтва адштурхнула ад паўстаньня беларускае сялянства сьціраваўшы яго навет як супраць паноў, так і супраць польскага паўстаньня наагул. Пра гэта зазначаў навет Кастусь Каліноўскі, гаворачы, што накіраванасьць польскага паўстаньня выклікала «няпрыхільнасьць да яго больш сур'ёзнае **Літвы».**

З гэтага скарысталі таксама царскія ўлады. У часе разгару паўстаньня ў Беларусі І сакавіка 1863 году цар пайшоў на некаторыя ўступкі беларускаму селяніну, пасьпяшыўшы «адмяніць абавязковыя пазямельныя адносіны паміж панамі й населенымі на іх землях часова забавязанымі сялянамі» ў большасьці паветаў Беларусі ды аб'явіўшы пра зьніжэньне на 20% выкупных платаў. Разам з гэтым расейская прапаганда становіцца на адкрыты шлях звальваньня ўсяе віны за няшчасьці беларускага селяніна на польскіх паноў, на польскае паўстаньне й паўстаньне ў Беларусі наагул. Царскае ваеннае камандаваньне пачынае навет станавіцца ў «вабарону пакрыўджаных», нацкоўваючы беларускага селяніна на паўстанцаў ды арганізуючы іх у так званую сельскую «самаабарану». Такое становішча атрымаў Кастусь Каліноўскі, узяўшы кіраўніцтва паўстаньнем у Беларусі ў палавіне чэрвеня 1863 году. Паўстаньне затухала, тым больш тут затухала польскае паўстаньне, бо ўжо зь ліпеня гэтага году польская «шабелька» пасьпяшыла зьмірыцца з царом і прынесьці яму прысягу пакорлівасьці.

Цяпер уся надзея групы Кастуся Каліноўскага, а таксама й польскіх адданых справе рэвалюцыянэраў, была зьвернута на магчымасьць сялянскага паўстаньня ў Польшчы (дасюль кіраўніцтва польскім паўстаньнем ускладала ўсю сваю надзею на шляхецкую ваеншчыну). Асабліва на гэта спадзяваўся Кастусь Каліноўскі, спадзяючыся атрымаць у сялянскім паўстаньні Польшчы як дзейнага саюзьніка ў вагульным змаганьні, так і ў палітычных дачыненьнях з Польшчай, чаго не магла дапусьціць польская шавіністычная шляхта. Маючы апошняе на ўвазе, таму Кастусь Каліноўскі й цяпер не парывае поўнасьцяй з Варшавай, ідучы на часовы кампраміс зь ейнымі хваравітымі амбіцыямі.

Прыйшоўшы зноў да кіраўніцтва паўстаньнем у Беларусі, Кастусь Каліноўскі цяпер вымушаны быў павесьці сваю акцыю ў кірунку недапушчэньня ўмешваньня Варшавы ў справу паўстаньня



**Кастусь Каліноўскі**

**Гэтае фото, якое знаходзіцца ў фондах Вайсковага Музэю ў Варшаве, адносіцца да таго часу, калі Каліноўскі кіраваў дзейнасьцяй паўстанскіх аддзелаў у Горадзеншчыне.**

на Беларусі; у кірунку поўнага ажыцьцяўленьня свае праграмы; у кірунку ліквідацыі вынікаў дзейнасьці польскага кіраўніцтва паўстаньнем у Беларусі ды нарэшце ў кірунку перакрыжаваньня намаганьняў Мураўёва ўбіць клін між сялянамі й кіраўнікамі паўстаньня.

У першым выпадку ён абкружае сябе надзейнымі пасьлядоўнікамі, умацоўвае свайми людзьмі губэрнскія й павятовыя цэнтры паўстаньня й кіраўніцтва паўстанскімі аддзеламі. Яшчэ будучы камісарам у Горадзеншчыне, Кастусь Каліноўскі дабіўся зьняцьця з пасады камандуючага паўстанскімі аддзеламі Горадзеншчыны варшаўскага стаўленьніка палкоўніка Духінскага. Ён назначыў на гэтую пасаду свайго бліжэйшага супрацоўніка В. Врублеўскага. У склад новага Камітэту былі ўведзеныя афіцэр Ўладыслаў Малахоўскі, афіцэр І. Каліноўскі (вайсковы кіраўнік Віленскага цэнтру), Ціт Далеўскі, Юзік Ямант, І. Здановіч і інш. Кіраўніком паўстаньня ў Ковенскай губэрні быў назначаны сьвятар Антон Мацкевіч, Менскай губэрні — той-жа Юзік Ямант, у Віцебшчыне дзейнічаў Паўла Чарвінскі (паўстанскае імя Сава) і г. д. Кастусь Каліноўскі намагаецца таксама навязаць сувязь з расейскімі рэвалюцыянэрамі ў Пецярбургу і дзеля гэтага ён высылае туды Ўл. Малахоўскага. Праўда, гэтая місія не магла нічога даць пазытыўнага, бо, падчышчаная царскай рукой, расейская рэвалюцыйная дэмакратыя сама перажывала вялікі крызіс. Яна ў сваю чаргу прасіла падтрымкі ў Кастуся Каліноўскага, асабліва матарыяльнае. Туды Кастусь Каліноўскі мусіў выслаць выпісаную з Захаду друкарню, а магчыма й нейкую суму грошай, чаго патрабаваў Ўл. Малахоўскі.

Далей Каліноўскі вядзе контракцыю супраць кампаніі Мураўёва з так званымі вернападданьніцкімі адрасамі, якія вымагаліся ад насельніцтва Беларусі, у тым ліку й ад сялянства, сілай прымусу. Кастусь Каліноўскі выпускае папяршае контрапрас, які ў кароткі тэрмін падпісала 250 тысячаў насельніцтва, падругое вядзе прапаганду й змаганьне з каталіцкім і праваслаўным духавенствам, якое заклікала беларускае насельніцтва сьхіліць сваю галаву перад царом і ягонымі стаўленьнікамі ў Беларусі.

Гэтак, адказваючы на заклік цяльшэўскага япіскапа Валанчэўскага з 6 верасьня, а таксама Віленскай каталіцкай духоўнай кансісторыі, зьвернуты да насельніцтва з заклікам «перадацца на волю вышэйшага ў краю начальства... пакінуць усякае супраціўленьне... пасьледаваць абавязку сьвятой рэлігіі...», Кастусь Каліноўскі кідае ў сваім контрзвароце: «...не бяры імя Бога для ашуканства... Разбэшчанасьць, якая ідзе зьверху, спусташэньне духу й слабасьць у тых, хто павінен быць прыкладам пастаянства, вытрымкі, самаахвяраваньня — вось боль самы бязьлітасны. Нішто ў параўнаньні зь ім забойствы, пэкуты, пажары, зробленыя карнікамі ў нашым краі... Няхай людзі гэтага сьвету кіруюцца дыпляматычнымі хітрасьцямі. Вам, пралаты, калі вы жадаеце быць вернымі прадстаўнікамі Хрыста, трэба кіравацца адзіна праўдай, а ня выбіраць зло, хоць-бы й найменшае, бо навет самае малое зло нельга дапускаць у імя выратаваньня ўсяго сьвету. Значыць далёкай ад сэрцаў вашых павінна быць усякая боязь і асьцярожнасьць людзкая, калі вы выконваеце Ваш сьвяты абавязак». У гэтым контрзвароце Кастусь Каліноўскі ад імя рэвалюцыйнай улады ў Літве далей заклікаў народ ня верыць хлусьні вышэйшага духавенства ды ўзважыць, хто, пайменна, зьяўляецца «злачынцам» і «бунтарнікам» — паўстанцы й народ ці жорсткі прыгнятальнік разам з духавенствам (бо гэтае духавенства называла паўстанцаў «разбойнікамі», «злачынцамі» й г. д.).

Каб супрацьдзеіць ходам Мураўёва, Кастусь Каліноўскі распаўсюджвае адначасна ў народзе заклікі й загады. Гэтак у загадзе з 24 жніўня 1863 году ён заклікае: «Дурачыць вас маскаль, талкуючы вам, што гэта паны падняліся, каб павярнуць паншчыну, ён хоча ўскаламуціць ваду, каб у мутнай вадзе пастарому рыбу лавіці. Справа нашая ня ёсьць панскай справай, але справядлівай вольнасьці, якую вашыя дзяды й бацькі з даўня жадалі й якую маскаль з крывапійцамі вашымі спыніць хоча! Аднак мінула ўжо паншчына, мінула вашая крыўда — і ніякая сіла яе не паверне... Урад Польскі (маецца на ўвазе Літоўскі рэвалюцыйны ўрад — гл. у папярэднім нумары) аддае вам бязь ніякага выкупу й чыншаў тую зямлю, на якой сядзелі вашыя бацькі й дзяды. Гэты Ўрад Польскі дае вам праўдзівую вольнасьць... Ніхто ня мае права крыўдзіць простага чалавека... Чыншаў, аброкаў і падаткаў у казну маскоўскую, а таксама паном ніякіх больш не плаціць, бо гэтая зямля ўжо вашая...»

Адначасна праводзіцца й змаганьне з Варшавай. Як успамінае сакратар Кастуся Каліноўскага Юзік Ямант, з даручэньня Каліноўскага толькі ў жніўні 1863 году ён мусіў пасылаць Варшаве два рапарты-пратэсты, у якіх падымалася пытаньне ўмешваньня Варшавы ў справы Літвы й складаўся пратэст супраць прылучэньня да Польшчы Ковенскага й Горадзенскага ваяводзтваў.

Пра напружаныя, навет варожыя дачыненьні між Варшавай і Каліноўскім гэтага часу паведамляе таксама царскі генэрал В. Ратч. Ён паведамляе пайменна, што праз увесь час ішло напружанае змаганьне групы Каліноўскага з Варшавай і ейнымі агентамі ў Беларусі. «Калі Варшава ўзброенаю рукою імкнулася замацаваць сувязі, якія абрываліся, — зазначае ён, — Каліноўскі хацеў у той-жа час разарваць усякія зносіны з Польшчай». З гэтага гледзішча цікавае сабой распараджэньне Кастуся Каліноўскага, дадзенае кіраўнікам вайсковых аддзелаў, якое дазваляла ім вешаць тых паноў, што ўсяляк супрацьдзеялі ягонай праграме, ды загадвала ўсюды ўзяць пад сваю апеку сялянства, наагул народ.

Хаця ў гэты час Кастусю Каліноўскаму ўдалося арганізаваць нейкую колькасьць новых партызанскіх аддзелаў, аднак у тых абставінах ён мусіў зьмяніць тактыку ды навет сам характар паўстаньня. Край быў наводнены расейскім войскам. Таму ў першую чаргу Каліноўскі пераходзіць да тактыкі арганізацыі невялікіх паўстанскіх і рухомых аддзелаў, якія маглі-б лёгка ўнікаць няроўных схватак з расейскай арміяй. Тым часам ён імкнуўся пашырыць сувязі гэтых аддзелаў зь мясцовым насельніцтвам, іх пранікненьне ўсюды, адным словам стварыць з краю суцэльнае паўстанскае вогнішча. Асноўная-ж увага была зьвернутая на стварэньне сеткі й падтрыманьне паўстанскіх арганізацыяў, што ажыцьцяўлялася асабліва з восені 1863 году, калі збройнае змаганьне стала амаль немагчымым і было вырашана адлажыць паўстаньне да вясны 1864 году. У сувязі з гэтым пад канец 1863 году Кастусь Каліноўскі даў загад распусьціць большасьць паўстанскіх аддзелаў, уручаючы паўстанцам адпускныя білеты. Некаторыя зь іх проста былі зьнішчаныя царскімі войскамі, як гэта сталася з аддзеламі сьвятара А. Мацкевіча ў Ковеншчыне ці з аддзеламі В. Врублеўскага ў Горадзеншчыне й Беласточчыне.

У кампаніі супраць паўстанцаў у Беларусі ўзялі ўдзел 69 палкоў і 19 асобных вайсковых адзінак расейскай арміі. Агулам у Віленскай ваеннай акрузе пад канец 1863 году налічвалася 117.150 штыкоў і шабляў і да 260 гарматаў. На гэта не маглі сабе дазволіць паўстанцы, якія змагаліся ў большасьці выпадках сялянскай сякерай, касой і віламі. Па афіцыйным дадзеным падчас паўстаньня ў Беларусі было расстрэлена ці павешана 128 чалавек; выслана на катаржныя работы 972 чалавекі; выслана на пасяленьне ў далёкі Сібір 573 чалавекі; выслана з пазбаўленьнем асабістых правоў у менш аддаленыя мясьціны Сібіру 854 чалавекі; улучана сілай ў расейскую армію 345 чалавек; выслана ў арыштанцкія роты 864 чалавекі; выслана на жыхарства ўнутры імпэрыі 1.524 чалавекі; выслана з краю для пасяленьня на казённых землях 4.096 чалавек. Такім чынам толькі судом было пакарана 9.356 чалавек, зь якіх 5.625 «просталюдзінаў», г. зн. сялянаў. Апрача гэтага было выслана з краю 629 сем'яў аколічнай шляхты; пакарана, аштрафавана й аддадзена на паруку з утрыманьнем пад наглядам паліцыі 2.855 чалавек; вызвалена з-пад арышту судам 3.169 чалавек; амніставаных паўстанцаў 2.205 чалавек. З гэтых апошніх таксама 6.127 было «просталюдзінаў».

Ведама, гэтыя афіцыйныя дадзеныя не адлюстроўваюць фактычнага стану. Яны злагодненыя Мураўёвам, каб паказаць «вернасьць цару й Расеі» беларускага народу. Сюды не ўваходзяць, ведама, расстрэленыя ці замучаныя карнікамі бязь ніякага суду ў часе «усмирительных» набегаў і ў змаганьні з паўстанцамі. Архіўныя матарыялы сьветчаць, што па загаду Мураўёва зьнішчаліся вёскі, а асобы, захопленыя із зброяй у руках, тут-жа расстрэльваліся.

Сышчыкі Мураўёва хадзілі па пятах Кастуся Каліноўскага й ягоных супрацоўнікаў. Кажны дзень выносіў зь іхных шэрагаў новыя ахвяры мураўёўскага тэрору. У сьнежні трапіў у палон Антон Мацкевіч, быў арыштаваны сакратар Каліноўскага Ціт Далеўскі. Шукалі Кастуся Каліноўскага, які па даносу аднаго здрадніка ледзь ня трапіў у рукі жандараў разам з Далеўскім. Дзеля пошукаў Каліноўскага быў высланы ў Менск жандарскі палкоўнік Лосеў, якому прыпадкова трапіў у рукі тут студэнт Парафіяновіч, што быў сябрам Магілеўскай рэвалюцыйнай арганізацыі Ён аказаўся нягоднікам, і, ведаючы яўкі паўстанцаў у Вільні, паведаміў Лосеву, што Кастусь Каліноўскі пад імем настаўніка геаграфіі Вітажэнца жыве ў будынку Віленскай гімназіі. Ночай 28 студзеня 1864 году будынак гімназіі быў акружаны жаўнерамі й жандарамі. Ня маючы ніякага падазрэньня пра данос, Кастусь Каліноўскі сустрэў жандараў і быў арыштаваны.

Раніцай 22 сакавіка таго-ж году ён быў павешаны, не давёўшы пачатай справы да канца — справы сацыяльнага й нацыянальнага вызваленьня беларускага народу, які ён так кахаў і якому пасьвяціў сваё жыцьцё.

**П. У.**

# Вялікодныя рэфлексіі

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

Не бярэм прыкладу ад Збавіцелевых вучняў, чуўшых Ягоныя запэўніваньні аб перамозе, а ўсё-ж нэрвова ўцякаўшых ад жахлівае драмы пэрфіднага асуду й паніжаючага крыжа, так што дапамога несьці яго прыйшла ад людзей зусім пастароньніх, — а бярэм прыклад ад тых-жа вучняў, але ўжо перапаленых шчырым каяньнем за свае сумлевы, адроджаных у веры Вучыцелевым Згробуўстаньнем, страхам і сумлевамі ўжо пранятых, а поўнанадзейнай адвагай да гэройскай пасьвяты.

Каму-ж не стаіць у ваччу тая драма нашых уцёкаў, нашага расьцярушаньня!..

Прычыны, шляхі й абставіны нашага выгнанства ці выйсьця з Роднае Зямлі на чужыну кажны з нас ведае. Ня месца тут разьбірацца ў пытаньнях: хто, куды й як, — незапярэчным стаецца той факт, што мы разьбегліся із-пад нашага гальгоцкага крыжа, пакідаючы нашу раскрыжаваную гаротніцу Беларусь на той нашай нацыянальнай Гальгоце Хрыста Збавіцеля. Не адзін з нас мо' ніколі над гэтым не затужваецца, думаючы, што ўсе маюць права распараджацца сабою па сваей волі, данай нам самым Стварыцелем, а забываючыся аб тым, што «няма большае любасьці, як аддаць жыцьцё за братоў сваіх», няма большага гэройства, як «за праўду стаць і за праўду зьгінуць»...

Але калі Бог дазволіў нам шчасьліва выйсьці з акрываўленае роднае зямлі, калі ён навет звольніў нас ад болю й крывавай ахвяры за сьвятыя ідэялы нашай Хрысьціянскай Бацькаўшчыны, дазваляючы жыць у зацішшы на чужыне, дык мы мусім уцяміць тое, што гэта ня нашыя асабістыя заслугі, але — Мучаніцы-Бацькаўшчыны, гэта заслугі нашых замучаных і недамучаных братоў, сёстраў і сяброў-суродзічаў. Яны адкупілі нас і нашыя нацыянальныя грахі сваёю крывёю, сваёю сьмерцю ды сваім, часта надлюдзкім цярпеньнем.

Якім спосабам мы адкупім нашыя ўцёкі з поля змаганьня — кажны з нас адказвае асабіста. І за тыя дабравольныя ці недабравольныя ўцёкі будзем адказваць як перад Богам, так і перад судом нашай гісторыі. Як-бы яно там ні было, то гэтага самаадкупленьня не даканаем самым толькі тут прыдбаным матарыяльным дабром ці іншымі асабістымі здабыткамі, бо наш побыт на чужыне абумоўлены чым іншым.

Часта здаралася, асабліва ў першых гадох эміграцыі, пачуць напаміны аб нашым тут заграніцай амбасадарскім, ледзь ня крыжацка-заваёўніцкім перад сьветавай апініяй пасланстве. Гэта было цалком правільнае гледзішча ды хіба-ж згоднае із намерамі Божага Провіду, які пазволіў нам выйсьці з Роднага Краю, прайсьці агонь і ваду ды ўсе мытарскія пэрыпэтыі. Гэтага пагляду трэба трымацца й далей, а навет рабіць яго зьместам нашага жыцьця, не баючыся ахвярнасьці маральна-інтэлектуальнай і матарыяльнай. Асабліва на полі рэвіндыкацыі родных ачужэлых душ. Вярнем іх Бацькаўшчыне, народу, роднай Эклезіі! Праўда, сяньняшняя зматарыялізаваная чужына ня спрыяе культываваньню далікатных хрысьціянскіх і нацыянальных пачуцьцяў, але навет і гэткія абставіны не звальняюць нас ад нашых хрысьціянскіх і нацыянальных абавязкаў і цнотаў.

Праўдзівую радасьць, хай сабе й праз тужлівыя сьлёзы, з Хрыстовага Згробуўстаньня мы будзем мець тады толькі, як Вялікоднымі Днямі ў нашых душах адазвуцца суладна з рэзурэкцыйнымі званамі пабожныя ўспаміны даўно мінулага, мо нат яшчэ дзяцінага, усяго мілага сьвяткавальнага роднага; калі перад нашай уявай стануць тыя багавейныя ўрачыстыя разгавіны з усімі іншымі бытавымі перажываньнямі...

А ідэйную, непрамінаючую вартасьць нашыя рэфлексіі гэтыя мецімуць тады, калі мы, парахаваўшыся з нашым хрысьціянскім сумленьнем, пастановім вызвалицца матарыялістычнага й апартуністычнага раздарожжа, а пойдзем разам з паняволенаю, але не скампрамітаванаю ўкрыжаванаю Бацькаўшчынаю вызвольна-працавітым творчым шляхам да ейнага ў Хрыстовым духу Згробуўстаньня.

**Той Самы**

# Літаратурны Дадатак

**Алег Лойка**

## Лясная Песьня

Выказваць у беларускай савецкай літаратуры беларускія патрыятычныя пачуцьці й любоў да Беларусі, як нацыянальна апрычонай, самабытнай і гістарычна самастойнай краіны, сурова забаронена. Такія паэтычныя тэндэнцыі падцягваюцца пад паняцьце «буржуазнага нацыяналізму». Затое вывышшаць усё расейскае ня толькі можна, але й трэба, гэта не называецца ані «буржуазным нацыяналізмам», ані «расейскім шавінізмам», але «самым прагрэсыўным» савецкім патрыятызмам.

У выніку нядаўняй пасьлясталінскай «адлігі» палітычнага курсу паявілася для беларускай літаратуры, падобна як і для усіх нерасейскіх літаратураў, адна-адзіная вузкая магчымасьць выказваць патрыятычныя пачуцьці да сваей собскай краіны, — гэта апяваць яе вонкавае прыгаство й выказваць пачуцьцёвую да яе прывязанасьць, зразумела, бязь ніякіх намёкаў на ейную нацыянальную апрычонасьць і гістарычную самабытнасьць, нагул бязь усіх тых элемэнтаў, якія ставілі-б Беларусь у незалежнае палажэньне ад Расеі.

Яркім прыкладам такога дазволенага сяньня вузкага й вонкавага патрыятызму можа служыць лірычная паэмка зусім маладога беларускага паэты Алега Лойкі «Лясная Песьня», якую ніжэй перадрукоўваем з нумару 1-га менскага журналу «Полымя» за 1961 год.

✳

І дня я не пражыў-бы, каб ня ведаў,
Што завітаць сюды магу заўжды —
Пад соснамі курган убачыць дзедаў,
Ля роднай хаты — ўзьлесак малады;
Што сонца векавечнае ўстае
Ня толькі з хваль зялёна-серабрыстых,
Зь пяску, які барханамі пяе,
З маўклівага гняздоўя гор скалістых —
А і із сьцежак нетаптаных, росных,
У нясьціханым шуме сініх соснаў,
У засені густа-зялёных ліп!..
Ня мог-бы я ні дня пражыць, калі-б
На ўзьлеску песень родных больш ня чулі
І ня кувала добрая зязюля
Харошым людзям доўгіх-доўгіх год,
Калі-б вясновых хвоек карагод
Жывіцай стомы не гаіў нязванай,
Не хваляваў-бы сон-травой ціхманай,
Пралескамі ня клікаў да красы,
Калі-б чыімсьці радасным каханьнем
Не зацьвіталі ў лесе
Верасы —
Ня мог-бы я і дня пражыць на сьвеце!..
Ляці, ляці, нястрымны, вольны вецер,
Мяне і самалёт мой абганяй,
Бо думак, што імкнуць у бацькаў край,
Ты не абгоніш, ветру быстракрылы, —
Яны ўжо там, дзе дом бацькоўскі, мілы!..
Там край лясны, і людзі там лясныя —
Сасноўскія, Каліны, Лазьнявыя,
Паддубскія, Дуброўскія, Дубягі,
Альхоўскія, Альшэўскія, Карагі;
І гарады лясныя там і вёскі —
Залесьсе, Берастовіцы, Бярозкі,
Бярэзьніцы, Дубровы, Дзераўныя,
Бары Старыя, Добрыя, Сьвятыя;
І рэкі там лясныя — Дзеравянкі,
Бярозы, Лані, Берастаўчанкі;
Дарогі там лясныя і азёры,
І зьнічкамі на лес спадаюць зоры,
І сосны ў жыцьце дрэмлюць адзінока,
Дзе бор глухі калісьці спаў глыбока.
Там іншых ня было калісь багацьцяў,
Як скарбы шчырай пушчы векавечнай,
І гора там ні ў чым хадзіла — ў ляпцях,
Карміла хлебам напалам з карой.
І шчасьця там шукалі ў лесе шчырым,
Пра кветку-папараць вялі чароўны сказ,
І зманны шлях да шчасьця ў сьветлы вырай
Пашчэплены, гнілы асьвечваў вяз.
Арэшнік выгінаўся там у лукі,
Хапала стрэл пявучых, войстрых дзід,
Аберуч бяручы дубіну ў рукі,
У крыўду не даваўся вельмі дзед:
Хадзіў ён пушчай, помсьцячы за зьдзекі —
Паном-паганцам быў адказ адзін, —
І славіўся лягендамі Машэка,
У казках — Рымша, Вяль, Удовін Сын,
А іншыя шукалі шчасьця ў Бога,
Маліліся дубом і абразом,...
. . . . . . . . .
Ды так і не знаходзілі нічога —
Ні шчасьця чалавечага, ні Бога,
Асінкай горкаю заломваўся іх век,
І праклінаў нядолю чалавек...
Ды ў лесе і прыдбалі там нямала:
У чорны кут хавалася бяда,
Як звонкія прыдбарвалі цымбалы
Ды захмялеўшы, цешыла дуда.
У лесе тым з жалейкай салаўінай
І песьню разгукалі не адну —
Пра явар, пра чырвоную каліну,
Пра шэрую зязюлю і сасну. .
Шчасьлівы я хаця на дзень адзіны
Ізноў іх чуць, а родныя мясьціны
Не ў памяці міражлівай насіць,
Не па начах у снох кароткіх сьніць —
На яснай яве бачыць, любавацца,
Ад шчасьця хвалявацца,
Задыхацца...
Паслухай, сэрца, сэрца, не змаўчы.
Ты мне павінна сяньня памагчы:
Дай слова, каб цябе раскрыць я мог.
Дай рытм мне свой, вось гэты, незабыўны,
Якім вітаеш ты бацькоўскі дом, што быў нам
Відзён з усіх зямных пуцін-дарог!..
На ім зымшэла пад дажджамі дранка,
Ад прымаразку прычарнеў зялёны хмель
[цяністы,
Што падаконьнікі абвіў,
дашчаны ганак,
Рабін пад вокнамі чырвоныя маністы;
І толькі елкі, сосны, як заўсёды,
Шумяць над ім зялёнаю лагодай...
Няўжо ня ўчора я між імі бегаў —
Да лесу нацянькі ад родных весьніц?..
Ці не майго дзяцінства гэта рэха
І сяньня басаног бяжыць па лесе?..
Ці то ня радасьцю спужаная маёю,
Казуля па бары імчыць і сяньня?..
Клубком калючым лёгшы пад мяжою,
Ці не мяне збаяўся вожык сонны?..
І ці ня мне ня могуць даравацъ
І сяньня задуменныя бярозы,
Сястра якіх упяршыню ў нябёсах
Мяне гайдала, гнулася, каб больш ня ўстаць?..
Няўжо пазналі хлопчыка былога,
Што ў сьвет пакрочыў з гэтага парога,
Гады ў рады
Прыходзячы сюды
З дарог, што клікалі яго і клічуць, клічуць
І родным лічаць?!.
Я ваш, дарогі, колькі буду жыць,
Але, даруйце, ёсьць адна дарога,
Якой найболей сэрца даражыць —
Дарога да бацькоўскага парога!..
Здаецца, пабягу па ёй вось-вось,
Зямным паклонам хаце пакланюся!..
А вунь і маці!.. Вочы поўны сьлёз...
Падходжу,
моўчкі да яе тулюся...
... Ужо за поўнач, ды ня можа маці,
Частуючы вяндлінай, тварагом,
Ад сьлёз стрымацца, у фартух схаваць іх —
Гарыць, гарыць у іх агеньчык шчасьця,
І цёпла-цёпла мне каля яго...
Табе, табе, матуля, я прынёс
Прываблівасьць вандроўнага жыцьця,
Натхненьне, радасьць першаадкрыцьця,
Зьдзяйсьнёнай мары неспакойны лёс;
Прынёс я ласку цёплых хваль паўдзённых,
Сібірскіх вадаспадаў пах сьцюдзёны,
Смугу карпацкіх туманоў гаючых,
Вятроў каўкаскіх палкую пявучасьць!..
І пра цябе, старэнькі бацькаў дом,
Не забываў я, па далёкіх сьцежках
Праносячы, як непапраўны грэшнік,
Адно жаданьне страснае цішком —
Сабраць і зьліць з красой тваёй узьлеску,
З узгоркавай, жытнёваю красой,
З агенчыкамі радасных пралескаў,
З дубамі і разважлівай сасной,
З чырвонаю калінай і язьмінам,
Цяністым хмелем, зграбнаю рабінай
Зубчасты край паднебных сьнежных гор,
Красу пшанічных стэпаў неаглядных,
І ўзьлёт арла, і звонкі хор цыкадны,
І чайкі кліч, і ў моры засеў зор!..
... Даўно за поўнач... Усхадзіўся вецер...
Ляжанку мякка маці высьцілае,
Баіцца, ня была-б яна малая,
Ня проста «сьпі» жадае мне, а «сьпеце»!..
Сама-ж ніяк ня ўмосьціцца, ля печы
Стаіць, пацiху думае аб нечым...
Аб чым?.. Аб шчасьці колішнім, маім?..
Стаіць і думае... Аб чым?..
Рабіна ў шыбу стукне час ад часу,
Бы просячыся ў хату, у цяпло...
Сьвяточна нада мною ціхі, шчасны
Сон разьвінае сьветлае крыло...
І мне здалося, што ня ў сьне — на яве
Масьніцы прарыпелі, бацька мой
Мяне падняў, усаджвае на лаве.
Драўлянай дорыць лыжкай выразной;
Над бульбай пара сопкімі клубамі,
У кубку — сырадою цёплы пах,
І ямачкі сьмяюцца ў шчоках мамы,
Як бацька студзіць бульбіну ў руках...
Зноў прарыпелі смолкія масьніцы —
І бацька зьнік... Не!.. Вось — ён вершыць
[стог...
Луг колецца, а я... я зьбіўся з ног,
Каб як на стог — ля бацькі прымасьціцца...
Ды то ня стог — пастукваюць калёсы,
Калышыцца ў калдобах сена воз;
Клюю я сьпіну бацькавую носам,
Казыча ў горле даўкі пыл да сьлёз...
І раптам стук — патрабавальны, грозны,
І шыбы ледзь ня крышацца, зьвіняць;
Рыпяць масьніцы;
Дышучы марозам,
У хаце людзі ў кажухох стаяць...
Зноў стук — другія кажухі і людзі,
І сярод іх — адзіны, родны ён,
І я тулюся да яго, і грудзі
Шчымяць, шчымяць...
І нікне, чэзьне сон...
Рабіна ў шыбу стукае пакутна,
Асьвер на ветры стомлена рыпіць...
Ўздыхае маці за сьцяной ледзь чутна:
Ня сьпіць...
Мой край лясны, ён быў лясным і будзе,
І славай ён авеяны лясной:
Ні песьня, ні лягенда не забудзе
Лясоў тваіх прытульных, краю мой!..
Ні танкаў пакрышыць дубы, ні мінаў,
Каб сосны і бярозы паланіць,
Ні бомбаў спапяліць твае каліны
Ня стала ў ненажэрных чужаніц...
На радасьць нам дуб лісьце разьвінае,
Жаўною, падсалоўкамі зьвініць,
І вецер лес на ўзьмежку засявае,
І дождж на ландышах расінкамі мігціць.
На радасьць грыб варушыць пласт іглiцы,
Суніца сьпее, і чабор цьвіце,
І чмель на ўзлеску па-над мядуніцай
Паважна, мірна, клапатна гудзе;
І сьветлы, задуменны лістапад
Пад ногі лёгка, мякка лісьце сыпле,
І ліпы маладыя сталі ў рад

# Тры Віленскія Мучанікі

## іх паходжаньне і накіраванасьць

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Вестку Ноўгарадзкага летапісу падхапіў Маскоўскі летапіс пачатку 16 в., які першы запісаў лягенду аб Віленскіх трох мучаніках, апрацоўваючы яе ў «навуковым» стылю, гэта значыць, павыкідаўшы недарэчныя здарэньні, як паход Скіргайлы на Полацак і зьвязаныя з гэтым факты, ды пакінуўшы самую лягенду мучаніцкай сьмерці двух Віленскіх баяраў:

«Того же году (1386) великыи князь Ягайло Олгердовичь Литовскыи еде женитися въ Угорскую землю к королю и женився тамо крестися въ Немецкую веру. И пришед изъ Угръ въ Литовъскую землю и крести Литву в Немецкую же веру, половину своего города Вильны, а два Литвина его большии крестишася въ християнскую веру. Он же хоте ихъ крестити въ свою же веру, и не послушаша его. Король же Ягайло казни их многыми муками и смирти веле их предати» (ПСРЛ, XXV, 213).

Гэтая вестка пасьля была перапісана з малымі зьменамі ў іншыя маскоўскія летапісы, як напр. у Сафійскія.

Ня будзем спыняцца над такой недарэчнасьцяй гэтай весткі, як тое, што Ягайла хрысьціў толькі палавіну Вільні, бо, мабыць, другая палавіна была ўжо хрышчанай, праваслаўнай, дык які сэнс было казьніць няшчасных двух баяраў? Мы ведаем зь іншых крыніцаў, што пры так званым хросьце Ліцьвы ня было ніякіх актаў насільля наагул, а ў дачыненьні да праваслаўных у васаблівасьці. Длугаш, сучасьнік Ягайлы. (Гіст. Пол. т. XIX), падкрэсьлівае, што ў Кракаве ў часе паўторнага хросту Ягайлы й іншых князёў літоўскіх «некаторыя Літоўскія князі, якія ўжо былі ахрышчаныя паводля грэцкага абраду, не згадзіліся на папаўненьне, або лепш кажучы, на ўдасканаленьне хрышчэньня». І ніхто ня быў прымушаны ці караны. Сам Вітаўт тады адмовіўся ад паўторнага хросту, паклікаючыся на ранейшы. Гэтаксама было ў Вільні й у Ліцьве ў 1387 г., калі праводзілася хрысьціянізацыя ў прысутнасьці Ягайлы й Вітаўта. Так Длугаш, як і Крыжакі ў часе доўгага працэсу зь Ліцьвой за права хрышчэньня сьцьвярджаюць не акты насільля, але зманьваньне людзей да хросту раздаваньнем адзежы й іншых падаркаў (Код. Віт. 1030). Наадварот, Ліцьва абвінавачвала Крыжакоў у актах насільля й забойстваў. (Літэс II, 185).

Такім чынам ня можа быць ніякай гутаркі аб тым, што былі замучаныя два высока-пастаўленыя Ліцьвіны (Беларусы) за адмову паўторнага хрышчэньня. Такія здарэньні Крыжакі не абмінулі-б выкарыстаць у вадказ на літоўскія абвінавачваньні іх у забойствах хрысьціянаў!

Аднак лягендзе гэтай ня было суджана быць «кананізаванай» у Маскве, бо ня было тады такога фанатыка, як мітрапаліт Аляксей. Мітр. Кіпрыян быў стаўленікам Вітаўта й Ягайлы дык на такія антылітоўскія авантуры згадзіцца ня мог.

✳

Што магло паслужыць за пісаную крыніцу да паўстаньня лягенды аб трох Віленскіх мучаніках за Альгерда?

У Маскоўскіх летапісах ідзе гутарка, што Круглец — Астап (Еўстафій) быў пахаваны побач двух іншых мучанікаў: Антона й Івана ў царкве сьв. Мікалая ў Вільні.

Ці існавала ў часы Альгерда праваслаўная царква ў Вільні? Даніловіч (Лятоп. Літвы і крон. Руска) кажа, што часу паўстаньня царквы сьв. Мікалая ў Вільні нельга вызначыць. Запраўды дасюль ня знойдзена ніякіх крыніцаў аб часе збудаваньня царквы сьв. Мікалая ў Вільні. Ёсьць толькі вестка з канца 15 ст. аб тым, што Казімір Ягайлаў выставіў грамату для Алехны Судымантовіча, у якой даецца яму пляц «у Вільні перэд Рускою цэркваю, перэд светым Міколою» (Руск. Ист. Биб, XXVII,384, № 71).

Вельмі праўдападобна, што гэткая царква існавала ўжо за часоў Альгерда, бо пазьней была шчыльна забудованая навакол жылымі будынкамі, відаць, як старая, страціўшая сваё значэньне.

Ёсьць вестка ў дакуманьце Ягайлы аб існаваньні ў тым часе ў Вільні каталіцкай царквы сьв. Мікалая. Так ці інакш у Маскве было ведама аб існаваньні царквы сьв. Мікалая. Гэта паслужыла выхадным пунктам для паўстаньня лягенды. Пайменна ў жыцьці сьв. Мікалая між іншым ёсьць гутарка, як гэты сьвяты выратаваў ад сьмерці трох юнакоў за хрысьціянскую веру, засуджаных каралём Астапам (Еўстафім). Відавочна ў Маскоўшчыне было ЖЫЦЬЦЁ сьв. Мікалая у чэскай мове (чэская літаратура аб сьвятых была распаўсюджаная на ўсходніх славянскіх землях), такім чынам з чэскага Крулец — кароль, паўстала «паганскае» імя Круглец, а за хрысьціянскае ўзятае імя караля — Еўстафі, Астапа. У Жыцьці сьв. Мікалая тры сказанцы, бязіменныя, такім чынам і ў лягендзе трох Віленскіх мучанікаў Антон і Іван ня маюць «паганскіх» іменаў (у маск. летапісах). Відаць, што для першага аўтара лягенды нехапіла фантазіі, каб прыдумаць паганскія ймёны для іх. Гэтую лягічную недакладнасьць потым выправіць Жыцьцё трох мучанікаў, даючы ім імёны, узятыя з народных казак. Імёны — Антон і Іван — шырока ведамыя, дык лёгка імі было назваць сваіх выдуманых мучанікаў.

✳

У такім выглядзе гэтая маскоўская лягенда трымалася ў 16 веку ў маскоўскіх летапісных сьпісках. Дата яе была падведзеная да часоў Альгерда — 1347 г. Аднак ў Маскве існавалі ў царкоўных запісах іншыя крыху весткі. Аб іх успаміна Дубовіч (Герархія або о звежхносьці в Цэркві Божай, 1644, 177) пад 1328 г. (як Густ. лет.), што «трох прыдворных В. Кн. Альгерда былі замучаны за сьвятую веру й павешаны на дубе на тым месцы дзе цяпер царква сьв. Тройцы манахаў сьв. Базыля», што «гэта ў маскоўскай хроніцы напісана ды гэны хранікар быў на лаціньнікі неласкавы». Дадае таксама, што ў «Соборніках і Проголах» ёсьць запісана мучаніцтва іх дня 13 студзеня.

Існаваньне такіх «Саборнікаў» — саборных запісаў вельмі магчымае. Сабор 1547 г. укладаючы уніфікацыйны сьпісак «рускіх» сьвятых, сутыкнуўся зь недахопам матарыялаў аб сьвятых ды зажадаў зыбраць такія матарыялы. Мітрапаліт Макар і цар далі тады загад, каб усе ярархі правялі ў сваіх япархіях пошукі вялікіх новых цудатворцаў, выкарыстоўваючы мясцовыя інфармацыі дзеля ўстанаўленьня «каковы их житья и чудеса» ды ўвесь гэты матарыял прывезьлі на наступны Сабор 1549 г.

Гэты апошні Сабор і разглядаў прывезеныя матарыял ды склаў сьпісак 17 агульнарускіх сьвятых і 3 пацярпеўшых у Ліцьве за часоў Альгерда (Ключевский, Древнерусские житья святых, М. 1871, 463).

Такім чынам у «саборніках» 1547-49 мусілі быць галоўныя нарысы Жыцьця трох Віленскіх мучанікаў, дзе яны былі зьвязаны зь мітр. Тэагностам і Аляксеям ды паслужылі за аснову для новай рэдакцыі Жыцьця канца 16 в. ужо на Віленскім груньце.

✳

Супярэчнасьць між маскоўскім летапісам, а весткамі з тэрыторыі нерасейскай і з Жыцьцём мучанікаў, што пацярпеўшыя былі пахаваныя не ў царкве сьв. Мікалая, але ў царкве сьв. Тройцы, — выразна паказвае на тое, што пасьля маскоўскіх Сабораў 1547-1549 гг. культ «літоўскіх мучанікаў» быў перанесены ў Ліцьву, галоўным чынам у Вільню, у Сьвята-

Ля пня былой, у тры абхваты, ліпы —
На радасьць! —
хоць і помнім мы той дзень,
Калі хацеў нас хіжы вораг сьцерці,
Калі, азызлы, люты, пень у пень,
Валіў ён лес у грозным сорак трэйцім...
У сорак трэйцім...
Сорак трэйці год...
Я не забуду пра яго да сьмерці!
І шоў, ішоў, ішоў лясны народ,
Штоночы ён ішоў у сорак трэйцім!..
Гасьцінны і зычлівы, шчодры бор,
Лагодны, поўны вечнага здароўя,
Біў кулямі прыблудаў ён ўва ўпор,
Канавы наліваў іржавай кроўю...
У сорак трэйцім... Колькі дзён дарма
Я прачакаў тады цябе, мой мілы,
Ня верачы, што больш цябе няма,
Што доля нас навекі разлучыла.
А лес маўчаў... Па шэрым гушчары
Прасейвала імжлівыя дажджы ўсё,
Забіўшыся ў зямлянку, ліст сыры,
Самотны, ціхі, нада мной кружыўся...
Я лес люблю, люблю любой парою —
Ня толькі той, што песьнямі пяе,
Баравікамі кліча, наліўною
Малінаю у роце растае,
Але і той, які маўкліва долу
Пажоўклым асыпаецца лістком:
На выгляд нібы хмуры, невясёлы
Пад хмарамі, налітымі сьвінцом, —
Ён люб мне ўсеабдымнай дабратою,
Што ўсю зямлю гатова абыйсьці,
Каб будучай блакітнаю вясною
Ля кажнага акенца расьцьвісьці;
Ён люб мне няпрыкметлівым гарэньнем,
Непаказною сілай нутраной
Пупышак нераскрытых і карэньняў,
Глыбока захаваных пад зямлёй!..
І рады я, што зь ім, такім, я зноўку,
Што трапіў я ў шчасьлівую пару!..
Гудзе, сьпяшаецца зялёная трохтонка
Падлескамі з гары ды на гару...
Даруй-жа, маці, што ня змог я ў хаце
У гэты дзень пабыць з адной табой,
Што я яго з рыдлёўкаю патраціў,
З калгаснай гаманлівай талакой!..
Дык вось які ён — лесу тыдзень сьветлы,
Зялёны дзень над роднаю зямлёй —
Ён хвошча кузаў гнуткім, пруткім вецьцем,
Бярэзьнікам пяе над галавой...
Сьпяшы, сьпяшы, зялёная трохтонка,
У ціхі лятуценны лістапад,
Аддайся, адгукніся рэхам звонкім,
І песьня-жарт, і стук, і звон лапат!..
Зялёны друг, яны — табе ў падмогу,
І рукі нашы, і любоў к табе,
Дык ня туманься ў золкавай жальбе:
З сабою-ж мы бяром цябе ў дарогу!..
Я вынясу на тысячы дарог
Цябе, харошы, дружбавіты лесе,
І цеш ты сэрца салаўінай песьняй,
Асеньняй прахалодаю мурог!..
З табою я, зялёны дружа-лесе,
Душой і сэрцам зьліты назаўжды:
Ляцець прыйдзецца мне на Марс, на Месяц —
Я завязу сасонку і туды!..
Расьці, дужэй пад сінім зорным небам,
Зялёным лісьцем сонца падымай,
Дажджы вядзі, каб ніва сьпела хлебам,
Каб білі рэкі хваляй цераз край!..
Я вынясу цябе, як міру песьню,
Ўслаўляючы цябе на ўсе лады,
І будзеш на зямлі ты, любы лесе,
Мне помнікам на доўгія гады!..
А тых, хто на цябе руку падыме,
Рабуючы зялёную зямлю,
Няўмольна асуджу
Радзімы імем,
Праклёнам вечным, ганьбай закляймлю!
... Я радасьці такой зайздрошчу проста:
Важнецкі, з бляскам цёплым у вачох,
Шырозны дзядзька, загарэлы, рослы,
Нясе маленькі дубчык у руках,
Нясе, нібы із шкла ён, асьцярожна,
Нясе пяшчотна, нібы немаўля,
І саступае перад дзядзькам кожны,
Ўрачыстасьцю крануты спакваля...
Мо' і таму, калі мы, кузаў поўны
Набраўшы ліпаў, ехалі дамоў,
З-за хмар сьвінцовых сонца яркай поўняй
Як выглянула — ня зьнікала зноў,
І зайчыкамі радаснымі шыбы
Ігралі ў сонцы; жоўценькі пясок
На шлях да эртээсаўскай сядзібы,
Здавалася, пасыпаў хтось знарок...
У добры час расьлі вы ў лесе, ліпы,
У добры час выкопвалі мы вас,
У добры час ля нашае сялібы
Дужэйце каранямі — ў добры час!..
У добры час разьвійце ліст цяністы,
Каб сонца промень век на ім ня гас,
У сьвет плывіце казкаю вячыстай,
Зялёнай хмарай зашумеўшы ў добры час!..
Я гэты дзень да скону не забуду,
Зялёны дзень краіны дарагой
Мо' для каго-б, нядзельны, стаў ён буднім,
Рыдлёўкай зазьвінеўшы над зямлёй,
Ды мне ён стаў лясной чароўнай песьняй,
Зялёнаю рапсодыяю стаў —
Над незабыўным бацькавым узьлесьсем
Красою непаўторнай загучаў;
Лавіў я гукі, прагнучы сабраць іх,
Каб пераліць у словы, у радкі,
І дарасна ўсьміхалася мне маці,
За мною сочачы ад весьніц з-пад рукі...
А ліпы падымаліся маўкліва,
На нас раўнаньне строга бяручы,
Дарогу абступаючы, імкліва
З гары на горку ўдалеч бягучы...
Мой край лясны... Шумяць дубы, яліны
Пад вокнамі заводзкіх карпусоў,
На цэлым сьвеце ён такі адзіны —
Абжыты шчасьцем сьветлы край лясоў!..
Тут пруткі ліст перад заводзкім цэхам
Чалом ад раніцы да позьняй ночы б'е,
Тут гул фабрычны мякка глушыць рэха,
І стома няўпрыкметкі растае;
Тут на сьвітаньні ў дружбе будзяць цішу
Гудкі і салаўі, а цэлы дзень,
Па-над асфальтам расьсьцяліўшы,
Калыша пушча свой лагодны цень;
І тут з узьлеску, заглушыўшы трактар,
Пад жаўтабрушак звонкі перасьвіст
Рупліва роль аглядвае араты —
Вясёлы, загарэлы трактарыст!..

Шумі, мой лесе добры, векавечны,
Над роднаю квітнеючай зямлёй,
Зьлівайцеся, любоў мая, сардэчнасьць,
З шыракадумнай песьняю лясной!..
Мяне-ж ізноў дарога ўдалеч кліча...
Зноў пакідаю матчын я парог,
Зноў маці шчасьця на дарогу зычыць,
Няясных думак поўная, трывог;
Зноў песьняў неразьведаных глыбінь
Мне на далоні керн сьвяточна ляжа,
Вясёлкамі расквецяць неба сінь
Фантаны прабураўленых мной скважын...
Пустыні, стэпы, горы абыду,
На самай на далёкай паралелі
Усё, што людзям трэба, я знайду —
Каб людзі шчасьце, дружбу, радасьць мелі.
Ды дзе ні буду — каля стромых гор,
У смаглым стэпе, на крутых ільдзінах
Ці на шляху да неабжытых зор —
Я рады буду думкаю адзінай,
Што ў небе па-над роднаю сялібай
Зялёнай, жаўруковаю вясной
Пяюць і мной пасаджаныя ліпы,
Зямлю адорваючы песьняю лясной!..

**Алег Лойка**

# Партыйная эквілібрыстыка ў літаратурнай крытыцы БССР

Беларускія савецкія літаратурныя крытыкі напісалі ўжо нямала працаў і артыкулаў на тэму гэтак званага крытычнага й сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. Усе аўтары ў вагульным згодныя з тым, што **беларускую дакастрычніцкую літаратуру характарызуе крытычны рэалізм,** тады як літаратурная творчасьць савецкага пэрыяду праходзіць пад знакам гэтак званага сацыялістычнага рэалізму.

Ня гледзячы на гэтую прынцыповую згоду, паміж беларускімі савецкімі літаратуразнаўцамі апошнім часам адбываецца спрэчка над удакладненьнем некаторых дэталяў. Яны дыскутуюць аб узаемасувязях паміж гэтымі двума мэтадамі і аб тым, ці існуе паміж імі нейкая дакладная мяжа, а калі так, дык дзе яна праходзіць.

Да нядаўняга часу ў публікацыях на гэтую тэму заўважалася агульная тэндэнцыя гаварыць аб тым, што мэтад гэтак званага сацыялістычнага рэалізму сфармаваўся ўжо ў дарэвалюцыйнай творчасьці клясыкаў беларускай літаратуры — Купалы, Коласа, Цёткі й іншых беларускіх рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменьнікаў. Такія цьверджаньні маглі падабацца партыйнай верхавіне, але яны настолькі неабгрунтаваныя, што супраць іх пачалі ўздымацца галасы навет з боку некаторых артадаксальных савецкіх літаратурных крытыкаў.

У другім нумары літаратурнага часапісу «Полымя» за гэты год гэтай тэме прысьвяціў свой артыкул Васіль Івашын. Ён выступіў супраць таго, каб гаварыць аб сацыялістычным рэалізьме ў беларускай перадкастрычніцкай літаратуры і прапануе заместа яго ўжываць такія выразы, як «вытокі», «зародак», «крыніцы» новага, гэта значыць «сацыялістычнага» рэалізму ў старым, гэта значыць дарэвалюцыйным, крытычным рэалізьме. Гэтым, бясспрэчна, Івашын робіць маленькі крок у правільным кірунку. Але — паўтараем — толькі маленькі крок да праўды. Маленькі таму, што ён, як і ўсе іншыя аўтары, што пісалі й пішуць на гэтую тэму, далей абараняе пункт гледжаньня, быццам дарэвалюцыйны крытычны рэалізм мае нешта супольнае з абавязковым цяпер гэтак званым сацыялістычным рэалізмам. Васіль Івашын піша, напрыклад:

«Крытычны і сацыялістычны рэалізм — ... зьвязаныя пераменнасьцю традыцыяў, адзінствам рэалістычнай асновы. А гэта азначае, што паміж імі няма і быць ня можа ніякай непераходнай мяжы. Сацыялістычны рэалізм не навязваецца літаратуры звонку, не зьяўляецца выдумкай асобных людзей, нечым суб'ектыўным і адвольным, як гэта імкнуцца даказаць нашы ворагі. Узьнікненьне сацыялістычнага рэалізму — вынік арганічнага разьвіцьця эстэтычнай думкі і літаратуры».

Як бачым, Івашын намагаецца затушаваць тое, што гэтыя два мэтады не дапаўняюцца, а сябе ўзаемна выключаюць, як ідэйна зусім супрацьлежныя. Параўнаньне пазыцыяў, на якіх стаялі й якія абаранялі прадстаўнікі гэтых дзьвюх літаратурных плыняў, яскрава гэта пацьвярджаюць.

У той час, як прадстаўнікі крытычнага рэалізму ў беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры, стоячы на пазыцыях народу, абаранялі ягоныя сацыяльныя й нацыянальныя інтарэсы, войстра выступалі супраць усякага прыгнёту беларускага народу з боку царскага самаўладзтва, супраць цэнзуры над думкамі й словамі з боку ўладаў, — дык новы, савецкі гэтак званы сацыялістычны рэалізм займае дыямэтральна супрацьлежныя пазыцыі. Праўда, да гэтага часу гэтага новага мэтаду ніхто дакладна не сфармуляваў, у тым ліку і ягоны афіцыйны заснавальнік — Максім Горкі. Але сама савецкая літаратура, ейнае палажэньне, накінутая ёй роля й ідэйная накіраванасьць — гавораць самі за сябе. Гэтак званы сацыялістычны рэалізм паставіў беларускую савецкую літаратуру на службу тым, супраць каго яна змагалася раней — на службу дзяржаўнай ўлады, і супраць таго, за чые інтарэсы яна так адважна выступала да рэвалюцыі — супраць інтарэсаў беларускага народу. Інакш кажучы, савецкі казённы «соцрэалізм» здэградаваў сучасную беларускую літаратуру з ступені выказьніка й прадстаўніка імкненьняў і

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

троіцкі манастыр. Тут і было напісана абшырнае Жыцьцё гэтых мучанікаў. Бо магчымая толькі адна лягічная разьвязка замены царквы сьв. Мікалая на царкву сьв. Тройцы, калі ўмясцовім культ гэты ў Вільні. Ніхто ня быў-бы зацікаўлены ў такой зьмене, як толькі Сьвятатроіцкі манастыр, які ў канцы 16 веку прэтэндаваў стацца царкоўным асяродкам Ліцьвы (Беларусі). Пазьней, у 19 в. мы пабачым, што наступіць далейшае зіначаньне Жыцьця, калі Сьвятадухаўскі манастыр у Вільні, як праваслаўны асяродак таго часу, абвесьціць сябе цэнтрам культу мучанікаў, цьвердзячы, што мучанікі былі пахаваныя ў царкве сьв. Духа, дзе навет знойдуцца іх мошчы.

Сьвятатроіцкі манастыр у Вільні ў другой палавіне 16 в. запраўды быў галоўным асяродкам царкоўнай праваслаўнай акцыі на нашых землях і прабаваў ратаваць праваслаўную царкву ад заняпаду, які наносіўся рэфармацыяй. Паводля сьветчаньня Скаргі й Пацея (Русск. Ист. Биб. XIX, 214, 677, 975), у вадным толькі Наваградзкім ваяводзтве «грэцкая вера» страціла на карысьць новаверцаў 650 цэркваў і «ледве сотный дом шляхэцкій найдзеш, каторый бы тым паветрам ня быў заражаный».

Яшчэ раней, у 1546 г. Жыгімонт сьцьвярджаў, што ён атрымаў мноства лістоў ад князёў і паноў «грэчаскаго закону», у якіх пададзеныя былі факты аб «нераднасьці й несправе» праваслаўнага духавенства, якое не прытрымоўвалася «правіл сьвятых ацец і не подля права» жывець, а ў «блудзе й распушчэнстве». Дзеля направы царкоўнага жыцьця Жыгімонт Аўгуст загадваў склікаць у найбліжэйшым часе Сабор япіскапаў у Вільні (АЗР, III, 3).

Але духавенства не паднялося да аздараўленьня царквы й пасьля Сабору. Вось-жа ролю гэтую перанялі манастыры й пры іх арганізоўваныя царкоўныя брацтвы, зь якіх на першае месца вышла Брацтва Сьвятатроіцкага манастыра ў Вільні, заснаванае ў 1584 г. ды зацьверджанае ў 1586 Жыгімонтам (Вазай) і патр. Канстантынопальскім Ярэмім. Хутка яно разгарнула актыўную дзейнасьць, нажаль быў узяты кірунак і дух маскоўскага царкоўнага адраджэньня ў васаблівасьці «стоглавага» Сабору. Немалую ролю ў гэтым адыгралі кн. Курбскі й іншыя расейскія ўцекачы, асеўшыя на Валыні і на нашых землях. Гэтыя эмігранты, падтрыманыя кн. Астроскім, Слуцкім ды іншымі магнатамі ў сваіх лістох і публікацыях заклікалі да вернасьці праваслаўю тыпу маскоўскага ды да зьберажэньня «рускай» мовы, гэта ёсьць мовы з нахіламі царкоўнаславянскімі й маскоўскімі.

*

У 1570 г. з даручэньня Курбскага й Астроскага езьдзіў у Маскву ерадыякан Якім, каб дастаць з царскай бібліятэкі копіі бібліі ў царкоўнаславянскай мове дзеля перавыданьня яе ў Ліцьве ды вышукаць іншыя царкоўныя матарыялы, як «беседы эвангельские», Жыцьцё Антонія, аб якім успамінае Пацярык і інш. (Чтенія, 1883, I, с. 2).

Вось-жа, здаецца, што гэты пасланец з рознымі іншымі матарыяламі, прывёз адпіс маскоўскай (першай) рэдакцыі Жыцьця Віленскіх Мучанікаў, а Курбскі яго пераслаў Сьвятатроіцкаму манастыру ў Вільню, дзесьці каля 1580 г. На гэты час паказвае пачатак культу 14 францішканскіх мучанікаў, аб якіх гаворыць летапіс Быхаўца.

Аб кульце 14 францішканскіх мучанікаў было глуха да канца 16 веку. Маўчаць крыніцы так літоўскія, польскія, крыжацкія. Аб ім не ўспамінае гвардыян (архімандрыт) Віленскіх Бэрнардынаў Ян з Камарова, які напісаў у першай палове 17 в. па лаціне кніжыцу: «Мэморыяле ардініс фратрум мінорум». Ніякай весткі не пакінулі таксама першыя Віленскія япіскапы-францішканцы.

У 1501 г. Эразм Цёлак ад Віленскай капітулы езьдзіў у Рым ды між іншым прасіў мошчы сьвятых для Віленскай катэдры. Папа Аляксандар V у сваёй бульлі з 3 вер. 1501 у зьвязку з мошчамі нічога не ўспамінае аб кульце францішканскіх мучанікаў у Вільні.

І толькі пад канец 16 в. зьяўляюцца першыя весткі аб кульце гэтых мучанікаў. Першы раз знаходзім такую вестку ў працы Пётра Радольфюса, выданай у Вэнэцыі 1586-1595 пад загалоўкам: «Гісторіярум Сэрафіцэ рэлігіоніс лібры трэс» (Гісторыя закону францішканскага ў трох кнігах). У 1598 г. Віленская Капітула аднавіла капліцу сьв. Крыжа ў япіскапскім гародзе, дзе былі пахаваныя мучанікі, лік якіх у гэтым часе падаваўся 36. Ад 1613 г. дзеля ўзмацненьня культу францішканскіх мучанікаў, пачынаецца гісторыя Трох Крыжоў на Лысай (Трыкрыскай) гары ў Вільні.

Усё гэта, думаем, не прыпадкова сталася, але дзеля ўзмацненьня каталіцкай веры ды дзеля супрацьстаўленьня маскоўскай рэлігійнай дывэрсыі з трыма мучанікамі, нібы пацярпеўшымі ад аднаго з пануючай дынастыі — Альгерда. Культ францішканскіх мучанікаў адхіляў маскоўскую лягенду аб антыхрысьціянскай дзейнасьці Альгерда, а сьмерць мучанікаў зьвязаў з нападамі паганцаў ці няверных Татараў у часох Альгерда.

*

Рэлігійная Берасьцейская вунія 1596 хутка пераняла праваслаўе на нашых землях з усімі яго сьвятымі й звычаямі. Быў пераняты й культ трох Віленскіх мучанікаў пасьля таго, як манахі (базыльяне) Сьвятатроіцкага манастыра ў Вільні перайшлі ў вунійную царкву каля 1600 г. Тады Віленскае Царкоўнае Брацтва зь некаторымі манахамі перайшло ў Сьвятадухаўскі манастыр, якраз у тым часе збудаваны (1600).

Вось- жа на пачатку 17 в. Базыльяне Сьвятатроіцкага манастыра ў Вільні і паправілі Жыцьцё трох мучанікаў папярэдняй Віленскай рэдакцыі ў інтарэсах вунійнай Царквы. Аб тым як выглядала гэтая вунійная рэдакцыя Жыцьця можам мець уяўленьне з працаў 17 веку.

Праф. Віленскай Акадэміі Віюк-Каяловіч у сваёй працы: «Місцэленэ рэрум ад статум Эклезіястікум ін М. Л. Д. пэртінэнтіум» (Розныя справы, што адносяцца да становішча Царквы ў В. К. Л.) залічае трох Віленскіх мучанікаў да вунійных сьвятых.

У апісе жыцьця мучанікаў падае наступныя дадзеныя, мабыць, узятыя з вунійнай рэдакцыі Жыцьця:

1) што мучанікі былі прыдворнымі кн. Альгерда;

2) перад хростам называліся паганскімі імёнамі: Куклей, Міглей, Няжыла. Як мы бачылі ў маск. летапісах было паганскае імя Астапа — Круглец, а ў ЖЫЦЬЦІ маем ўжо паганскія імёны для ўсіх мучанікаў, прычым аўтар Жыцьця не зьвязваўся ўжо зьместам маскоўскай лягенды, а даў і для Астапа-Эўстафія сваё імя.

3) усе мучанікі былі ахрышчаныя сьвятаром Нэстарам;

4) замучаныя былі за ўпорыстасьць у хрысьціянскай веры, а пайменна за тое, што насілі доўгія валасы (на лад маскоўскі) ды не перасьцерагалі срога пастоў;

5) замучаныя былі ў 1328 г. Іван — 24 красавіка; Антон — 14 — красавіка, Астап — 13 сьнежня, як гэта ўтрымалася й у пазьнейшых рэдакцыях і што сьветчыць, што першая вунійная рэдакцыя Жыцьця ўвяла вельмі дробныя папраўкі. Што да году (1328), то мы ўжо гаварылі аб яго паходжаньні ў зьвязку з Густынскім летапісам. У пазьнейшых рэдакцыях Жыцьця падаецца год 1342, што сьветчыць, што навейшыя аўтары стараліся паправіць баламутную дату 1328 у дачыненьні да Альгерда. Гэтаксама няма аднолькавасьці да дзён сьмерці мучанікаў, і гэта довад шматлікай апрацоўкі Жыцьця рознымі аўтарамі. 14 красавіка як дзень сьмерці мучанікаў, устаноў-

# Брытанская супольнасьць і Паўдзённа-Афрыканскі Саюз

Лёнданская канфэрэнцыя прэм'ераў краінаў Брытанскай Супольнасьці прывяла да таго, што гэтая Супольнасьць страціла аднаго свайго сябру — Паўдзённа-Афрыканскі Саюз. Калі ў выніку праведзенага ў мінулым годзе плебісцыту, Паўдзённа-Афрыканскі Саюз прыняў пастанову зьмяніць сваю канстытуцыю й стацца рэспублікай, выказваліся сумлевы, ці гэтая краіна здолее застацца сябрам Брытанскай Супольнасьці.

Аднак гэтыя сумлевы ня былі спалучаныя з фактам абвешчаньня Паўдзённа-Афрыканскага Саюзу рэспублікай. У гэтым дачыненьні ўжо быў прэцэдэнс створаны Індыяй, Ганай і Пакістанам: усе гэтыя краіны — незалежныя рэспублікі, і ўсё-ж яны застаюцца ў Брытанскай Супольнасьці. Пытаньне аб Паўдзённа-Афрыканскім Саюзе ўзьнікла ў сувязі з палітыкай апартгэйду, гэта значыцца палітыкай расавай дыскрымінацыі якую з такой упорыстасьцяй праводзіць ультра-нацыяналістычны ўрад Паўдзённа-Афрыканскага Саюзу, ачольваны Фэрвурдам. I вось-жа якраз гэты палітычны курс ураду Фэрвурда выклікаў такую рэакцыю за межамі Паўдзённа-Афрыканскага Саюзу, што яна прывяла да прымусовага ягонага выступленьня з Брытанскай Супольнасьці.

Паўдзённа-Афрыканскі Саюз паўстаў у выніку крывавай вайны паміж Ангельцамі й Бурамі — насельніцтвам галяндзкага паходжаньня. I той факт, што ён быў адным зь сяброў Брытанскай Супольнасьці, заўсёды быў уважаны яскравым прыкладам таго, што гэтая арганізацыя змагла аб'яднацца на прынцыпах роўнасьці і што ў яе ўваходзяць краіны й народы, якія раней былі зацятымі праціўнікамі Англіі.

З канстытуцыйнага пункту гледжаньня, Паўдзённа-Афрыканскі Саюз заўсёды меў поўнае права выступіць з супольнасьці. Але цяпер выступленьне Паўдзённа-Афрыканскага Саюзу мае адмысловае значаньне таму, што ў дадзеным выпадку сам прынцып існаваньня свабоднай асацыяцыі, якая аб'ядноўвае на прынцыпах роўнасьці народы розных расаў — быў пастаўлены пад загрозу. Палітыка няпрымірэнчай расавай дыскрымінацыі, якую праводзіць паўдзённа-афрыканскі ўрад у дачыненьні да нэгрыцянскага насельніцтва гэтай краіны — нясумяшчальная з гэтым прынцыпам.

Пасьляператварэньня Брытанскай Імпэрыі ў Супольнасьць Нацыяў, прадстаўнікі ня белых народаў — як паводля колькасьці краінаў, так і паводля агульнай колькасьці насельніцтва — сталіся бальшынёй. Зразумела, што гэта мусіла адбіцца на палітыцы ангельскага ўраду ў тых каляніяльных краінах, якімі далей кіраваў Лёндан. Ангельцы заўсёды цьвердзілі, што іхная каляніяльная палітыка ставіць сваёй мэтай падрыхтаваць усе каляніяльныя народы да таго, каб яны самі маглі кіраваць сваёй краінай, і каб, стаўшыся незалежнымі, гэтыя народы маглі глядзець на белых, якія застануцца на іхных тэрыторыях, як на роўных зь імі грамадзянаў.

Гэты прынцып роўнасьці цьвёрда ўкараніўся ў сьведамасьці кажнага Ангельца. Таму калі пасьля Другой Сусьветнай вайны паўдзённа-афрыканскія шавіністыя прыйшлі да ўлады й пачалі праводзіць сваю палітыку дыскрымінацыі, абурэньне супраць гэтага ахапіла ўсю Брытанскую Супольнасьць.

Аднак, гэтая апазыцыя да палітыкі Паўдзённа-Афрыканскага Саюзу ў пэўнай ступені злагоджвалася сьведамасьцяй таго, што трэба за ўсякую цану захаваць адзінства Супольнасьці.

На нядаўнай лёнданскай канфэрэнцыі шмат якія прэм'еры краінаў Супольнасьці, а перш за ўсё ангельскі прэм'ер Макмілян, імкнуліся знайсьці кампрамісовае разьвязаньне, якое асудзіла-б палітыку дыскрымінацыі, а адначасова ня выключала з Супольнасьці Паўдзённа-Афрыканскага Саюзу. Але ціск з боку ня-белых сяброў супольнасьці й цьвёрдая пазыцыя, якую заняў канадзкі прэм'ер Дыфэнбэйкэр у пытаньні поўнай ліквідацыі ў Супольнасьці расавай дыскрымінацыі — спрычыніліся да таго, што далейшае сяброўства Паўдзённа-Афрыканскага Саюзу ў Брытанскай Супольнасьці Нацыяў сталася немагчымым.

**Р. С.**

# Партыйная эквілібрыстыка...

**(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)**

пажаданьняў народу, мастацкага аб'ектыўнага адлюстравальніка ягонага быту, да ступені звычайнага прыдатку да прапагандовага апарату дыктатарскай улады. Гэты бальшавіцкі партыйны мэтад прымусовай ідэялізацыі казённых ідэяў і мэрапрыемстваў мае столькі-ж супольнага з сапраўдным рэалізмам у літаратуры, колькі савецкі лад з сапраўдным сацыялізмам.

Усё гэта напэўна добра ведама Івашыну і іншым беларускім літаратурным крытыкам на бацькаўшчыне. I тое, што яны аб гэтым ня могуць сяньня гаварыць — найлепш сьветчыць аб правільнасьці намі сказанага.

Зусім відавочна, што сувязь паміж дарэвалюцыйным крытычным рэалізмам і цяперашнім соцрэалізмам, калі аб такой сувязі наагул можна гаварыць, можна было-б заўважыць толькі ў вадным: у брутальным зьнішчэньні старога свабоднага літаратурнага мэтаду і насаджэньні на ягоным месцы ягонай поўнай бальшавіцкай антытэзы. Такі пагляд, між іншым, прабіваецца і ў некаторых месцах артыкулу Васіля Івашына.

Калі гаварыць аб канцы старых свабодных літаратурных традыцыяў і пачатку савецкага соцрэалізму, дык такую мяжу трэба шукаць не ў дакастрычніцкім пэрыядзе, а ў савецкім. Казённы соцрэалізм запанаваў у Беларусі ня ў выніку аб'ектыўных законаў разьвіцьця людзкога грамадзтва, як гэта цьвердзіць камуністычная таўталёгія, ня ў выніку свабоднага аўтаматычнага пераходу нашых пісьменьнікаў на службу казённай літаратуры, а ў выніку нячуванага тэрору над працаўнікамі беларускай культуры з боку бальшавіцкіх уладаў. На вечныя часы неаспрэчным фактам застаецца тое, што ў выніку тэрору 30-ых гадоў, скіраванага да прымусовай саветызацыі беларускай літаратуры, бальшавіцкая ўлада, як ніякая ўлада ў сьвеце да гэтага часу, зламала духова і зьлiквідавала фізычна дзесяткі й сотні больш ці менш ведамых беларускіх пісьменьнікаў, што хацелі заставацца вернымі свабодным нацыянальным літаратурным традыцыям. Васіль Івашын прабуе аспрэчваць гэты факт. Ён піша:

**«Нашы ідэйныя ворагі — беларускія буржуазныя нацыяналістыя, якія пасьля вайны знайшлі прыстанішча ў заходніх імпэрыялістычных краінах, — у сваіх эміграцкіх выданьнях пішуць, нібыта Кастрычніцкая рэвалюцыя гвалтоўна спыніла жывую традыцыю беларускай літаратуры і прымусовая саветызацыя прывяла яе да страты нацыянальнай спэцыфікі, да заняпаду. У 20-ыя і першай палове 30-ых гадоў беларуская літаратура быццам-бы знаходзіла яшчэ ў сабе сілы супраціўляцца саветызацыі, а потым у яе ня стала гэтых сіл.»**

Да гэтага мы можам толькі дадаць, што Івашын дакладна схарактарызаваў ацэну, якую дае беларуская эміграцыя літаратурнаму працэсу на паняволенай бальшавікамі бацькаўшчыне. I ніякая партыйная эквілібрыстыка ня зможа зьбіць з толку тых, хто шчыра жадае разабрацца ў сутнасьці закранутага тут пытаньня.

**А. З.**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# «Руская зямля»

У савецкіх школах беларускіх дзяцей ад маладых гадоў вучаць, (ці лепш кажучы — прамываюць мазгі), што беларускі народ ёсьць народам гістарычна маладым і, як такі, зьяўляецца вытварам штучным, бо народам ён стаўся не па сваёй волі, але пад узьдзеяньнем вонкавых і варожых дзейнікаў.

У старыну на зары гісторыі — як сьветчыць паводля іх гістарычная навука — на тэрыторыі Усходняй Эўропы славяне тварылі ня тры, але адзін рускі народ, мелі адну рускую дзяржаву, адну рускую мову, адну рускую культуру, і ўся Усходняя Эўропа называлася Русьсю. Калі-ж у выніку татарскага пагрому гэтая сьвятая Русь заламалася, а заходняя частка яе ў часы гэтага татарскага ліхалецьця была сілай адарвана ад усходняй, гэты тэрытарыяльны разьдзел калішняй адзінай-недзялімай на дзьве часткі прывёў да разрыву й калішняй нацыянальнай еднасьці. I так, калі на ўсходняй частцы народ, змагаючыся з татарскім захопніцтвам, здолеў ізноў стварыць сваю нацыянальную дзяржаву і бесьперашкодна разьвіваць далей сваю нацыянальную культуру, заходняя частка калішняй Русі, лучыўшы пад чужацкае ярмо, хірэла ўсё нацыянальна ды хірэла, і ня толькі не магла зрабіць ніводнага кроку наперад, але пяцілася ўзад, у сувязі з чым паміж гэтымі двумя часткамі вытварылася такая вялікая дыспрапорцыя, якая й прывяла да таго, што калісь адзіны рускі народ аказаўся ўрэшце падзеленым на тры розныя народы.

Сягоньня, калі гэтыя тры народы апынуліся ізноў у ваднэй брацкай сям'і, і Беларусы, дзякуючы сваёй нацыянальнай дзяржаве, здабылі таксама ўрэшце магчымасьць свабодна разьвіваць сваю нацыянальную культуру, ужо нічога не стаіць на перашкодзе, каб штучна разьедненая калісь адзіная Русь ізноў зьлілася ў вадну нацыянальную еднасьць. Бо-ж і на што Беларусам трымацца сваей прымітыўнай мовы й традыцыяў на яе разьвіваньне, даганяючы старэйшага брата, калі куды прасьцей і хутчэй, прыняўшы мову гэтага і старэйшага і разумнейшага брата, адным скокам аднэй пяцігодкі з прымітывізму й адсталасьці пераскочыць адразу ў культуру перадавога народу ў сьвеце. На перашкодзе аднак да гэтай сьветазарнай будучыні беларускага народу стаяць беларускія буржуазныя нацыяналістыя, якія стараюцца ўгаварыць цёмны народ, што найбольшым ягоным скарбам зьяўляецца ягоная родная мова. Гэтыя ворагі беларускага народу ведаюць, што як доўга беларускі народ будзе трымацца сваей дапатопнай мовы, так доўга ён будзе народам цёмным, а гэтая народная цемната якраз і патрэбная ім, каб ізноў пасадзіць на народныя плечы розных паноў ды шляхоцкіх падпанкаў.

*

Гэтая бальшавіцкая філязофія гісторыі, якая нацыянальную беларускую гісторыю зводзіць ніжэй нуля, не зьяўляецца ўсё-ж цалкам бальшавіцкай выдумкай, бо тое-ж самае вучылі ўжо ў расейскіх школах і ў часы царызму. Яшчэ Кацярына II прылучыўшы нашыя землі да расейскай імпэрыі і з гэтай нагоды выдаўшы мэдаль з вымоўным надпісам «отторженная возвратихъ», у гэтых двух словах вызначыла кірунак расейскай гістарыяграфіі ў дачыненьні да нашай гісторыі. Прамываньне такім чынам беларускіх мазгоў пачалося можна сказаць зь першага дня ўваходу Беларусі ў склад «едзінай, недзелімай матушкі Расіі.» Тады аднак з увагі на малую колькасьць расейскіх школ на Беларусі, расейская прапаганда магла прамыць мазгі толькі невялічкай колькасьці людзей, што выбіліся ў інтэлігенты. Але і гэта аказалася вялікім здабыткам для расейскай вялікадзяржаўнай ідэялёгіі, бо гэтыя з прамытымі мазгамі нашыя інтэлігенты цяпер самі пачалі памагаць маскалём прамываць мазгі сваім земляком.

Што праўда, рабілі гэта яны трохі інакш, ня так брутальна, як маскалі, бо хаця і мелі абрусельля мазгі, але як доўга ў сэрцах іхных пераховывалася любоў да свайго краю й народу, нэгатыўнае дачыненьне маскалёў да беларускай мінуўшчыны не магло не абражаць іхнага нацыянальнага сумленьня. Дзеля гэтага, калі маскалі нахалам цьвердзілі, што ў Беларусаў ніякай нацыянальнай гісторыі ня было й не магло быць, бо Беларусы «те же русские», а да таго — яны наогул ня здольныя да дзяржаўнага й культурнага высілку, дык нашая абруселая інтэлігенцыя старалася ў маскоўскае насьвятленьне гісторыі нашага краю ўносіць пэўныя папраўкі, праўда нясьмелыя, кажучы аднак, што ўсё-ж нацыянальнае тут нешта ды была. (Рагнеда, напрыклад!). На гэтае «нешта», пакольki яно фактычна ня вылазіла з маскоўскіх рамак, Масква пазваляла сабе глядзець праз пальцы (Рагнедзе-ж — найпрыгажэйшаму Траянскаму каню ў сусьветнай гісторыі — маскалі навет опэру напісалі), у рамках расейскай гістарыяграфіі такім чынам вытварылася на нашым грунце лякальная гістарычная школа, якая атрымала ў навуцы назоў — «западна-руссізму». Западна-руссізм гэты — калі каму яшчэ ня ясна — гэта быў такі сабе маскоўскі гасьцінец, абсаджаны абапал беларускімі бярозкамі, які, як і ўсе маскоўскія дарогі — вёў проста ў Трэйці Рым.

Беларускае нацыянальнае Адраджэньне, будучы пад уражаньнем гэтых родных бярозак, зь першых сваіх дзён аказалася ў палоне западна-руссізму, што тым больш зьяўляецца дзіўным, калі

**(Працяг на 7-ай бачыне)**

лены мітрапалітам Маскоўскім Аляксеям. У Жыцьці 14 красавіка вызначана толькі для Антона. Іван хістаецца ў сваей веры дык дадзены яму час на паправу, а Астап (Еўстафі) — юнак, поўны мужнасьці, пераживае найбольш цярпеньняў дык час ягонай сьмерці перасунены на 13 сьнежня. Усе гэтыя даты супадаюць з поснымі пэрыядамі (вялікі пост і калядні). 13 студзеня, як у «саборніках» (Дубовіч), ня мела абаснаваньня. Пазьнейшая вунійная рэдакцыя Актаў Санкторум (Актаў Сьвятых) паправіла дзень сьмерці Астапа на 31 сьнежня. Такім чынам, магчыма, Дубовіч 13 студзеня узяў зь пералічэньня старога каляндара на новы стыль, які ў тым часе ў нас абавязваў;

6) Астап быў мучаны цяжкімі мукамі, як біцьцём, ламаньнем косьцяў ног, ліцьцём студзёнай вады ў нос і інш., як гэта часта апісваецца ў літаратуры аб сьвятых. Усе мучанікі былі павешаныя на дубе на публічным месцы караньня злачынцаў.

7) усе мучанікі былі пахаваныя ў царкве сьв. Тройцы ў Вільні, а не сьв. Мікалая, як у маск. летапісах. Аб гэтым была мова раней, што Сьвятатроіцкі манастыр хацеў у сябе зрабіць галоўнае месца культу мучанікаў;

8) усе мучанікі былі прызнаныя за сьвятых мітрапалітам Кіеўскім Аляксеям, вуніятам. Як бачым, вунійныя папраўкі павярхоўныя, штучныя, у выглядзе дадаткаў, што духоўныя асобы былі прыналежныя да вунійнай царквы. Маскоўскі мітр. Аляксей запраўды ўжываў тытулу «Кіеўскі й всея Русі», за што тады йшло змаганьне з Альгердам. Працу гэтую Каяловіч выдаў у 1650 г.

У гэтым менш-больш часе былі нанава зьбраныя матарыялы ды перасланыя за подпісам і пячаткай Юрага Тышкевіча, Віленскага суфрагана ў Акта Санкторум (Акты Сьвятых), якія выдаваліся Беляндыстамі. Там наступіла новая вунійная рэдакцыя Жыцьця Віленскіх мучанікаў.

Параўняўшы гэтую новую рэдакцыю Жыцьця з апісанай Каяловічам, трэба сьцьвердзіць наступныя розьніцы:

1) выкіненьне імя Альгерда й Вільні;

2) прызнаньне Івана пад уплывам Антона й іншых хрысьціянаў да сваёй веры;

3) падробнасьці мукаў Антона й Івана;

4) падробнасьці ў паводзінах Астапа; прымушаньне яго да ежы мяса ў пятніцу (каталікі перасьцярагалі пасты ў пятніцу, а таксама на Куцьцю перад Раством);

5) падробнасьці мукаў Астапа;

6) цудоўнае недатыканьне целаў мучанікаў дзікімі зьвярамі і птушкамі;

7) што ад часу сьмерці Астапа ніхто больш ня быў павешаны на тым дубе ці пакараны на тым месцы;

8) на месцы мукаў сьвятых пабудаваная царква сьв. Тройцы, у якую былі перанесены мошчы мучанікаў.

9) слова «вунійны» было заменена «каталіцкі».

Як бачым, рэдакцыя Актаў Санкторум надала закругленую гагіяграфічную апрацоўку для Жыцьця Віленскіх мучанікаў, павыкідаўшы рэчы, якія былі ня выгадныя для нашай гісторыі, ці каталіцкай Царквы.

*

Так выглядала справа Жыцьця й культу Віленскіх мучанікаў у вунійнай царкве 17-18 вв. Відавочна старыя рэдакцыі былі зьнішчаныя, бо калі Масква стала кантраляваць нашае царкоўнае жыцьцё, дык прышлося пісаць нанава Жыцьцё мучанікаў ужо на аснове вунійных крыніцаў. Такую рэдакцыю зрабіў Дымітры Растоўскі (1651-1709), гадунец і настаўнік Кіеўскай Акадэміі, дзе былі вунійныя жаролы й літаратура. На аснове апрацоўкі Дымітра Растоўскага было выдадзена першы раз у Маскве ў 1749 г. Жыцьцё Віленскіх мучанікаў. Потым яно ўвайшло ў зборную працу Дымітра Растоўскага, выдадзеную Сьв. Сынодам у 1906 г.: «Житья святых по русскому языце ізложенные по руководству св. Димитрия Ростовскаго с дополнениями из пролога».

Дымітры Растоўскі напісаў сваю рэдакцыю Жыцьця Віленскіх мучанікаў, карыстаючыся галоўным чынам з тэксту лацінскага Актаў Санкторум. Цэлыя сказы проста даслоўна перакладзеныя на расейскую літаратурную мову пачатку 18 веку з Актаў Санкторум. Іншыя месцы перадаў ваднiстым расейскім стылем, захоўваючы амаль усе падрабязнасьці. Ясная рэч, нанова ўстаўлена імя Альгерда й Вільні (як у Каяловіча) ды 13 сьнежня, як дзень сьмерці Астапа (як у Каяловіча). Павыкіданыя «паганскія» імёны мучанікаў, як у Актах Санкторум, а таксама прынята месца паховінаў мучанікаў — царква сьв. Тройцы. Цікава падкрэсьліць, што Сьв. Сынод выдаючы ў 1906 г. афіцыяльны тэкст Жыцьця Віленскіх мучанікаў ня ўзяў пад увагу рэдакцыі манахаў Сьвятога Духа, якія цьвердзілі, што месцам пахаваньня сьвятых ёсьць іхная царква — Сьв. Духа.

*

Нанова разгарнуўся культ Віленскіх мучанікаў у праваслаўнай царкве толькі ў XIX в., калі нашыя землі былі забраныя Масквой. Цяпер цэнтрам маскоўскага праваслаўя стаўся Сьвятадухаўскі манастыр у Вільні (Сьвятартоіцкі манастыр быў у вуніяцкіх Базыльянаў да 1832 г., калі яны былі скасаваныя).

I вось пасьля Напалеонаўскай вайны, архімандрыт Сьвятадухаўскага манастыра Яіл і ераманах Гэрман пастанавілі ўзнавіць культ Віленскіх мучанікаў ужо ў сваім манастыры, спадзяючыся на падтрымку маскоўскіх уладаў. Перш ераманах Гэрман, вярнуўшыся із сваёй паездкі заграніцу 1814 г., абвесьціў, што будучы ў Канстантынопалі бачыў нейкае пісьмо, дзе нібы было сказана, што мошчы мучанікаў знаходзяцца ў царкве Сьвятадухаўскага манастыра. Ясная рэч, ані арыгіналу, ані копіі падобнага пісьма Гэрман нікому не паказаў, навет вышэйшым сваім духоўным уладам. (Ат. Віл. IV, 436).

У 1818 г. архімандрыт Сьвятадухаўскага манастыра Яіл прасіў дазволу ў ваеннага губэрнатара Літоўскага Рымска-Корсакава на ўрачыстае абвешчаньне аб знаходцы мошчаў ды на пачатак публічнага культу. Корсакаў падазраваў, што тут цёмная справа з гэтымі мошчамі, дык даў адказ: «пакуль ня будзе сьцьверджана тоесамасьць мошчаў цудамі», ён не дасьць такога дазволу.

Справа з мошчамі на некаторы час заціхла. Аднак Сьвятадухаўскі манастыр не пакідаў ранейшай думкі. Дайшло да таго, што 14 красавіка 1825 г., у дзень мучанікаў, Гэрман адправіў без дазволу ўладаў набажэнства ў царкве сьв. Духа ў прысутнасьці мноства людзей.

Занепакоіўся гэтым паліцмайстра Шлыкаў, які напісаў 25 красавіка 1825 г. да архімандрыта Яіла ліст з запытаньнем, ці ён мае дазвол ад духоўных уладаў на распачацьце публічных мольбаў з прычыны знаходкі мошчаў мучанікаў. Архімандрыт адказаў, што культ мучанікаў, замучаных у 1343 (як у Растоўскага), распаўсюджаны быў сярод усіх хрысьціянаў у Вільні на працягу гісторыі. Зрабіў узнаўленьне гэтага культу на дамаганьне вернікаў, хоць ня меў дазволу.

Шлыкаў пераслаў справаздачу губ. Рымска-Корсакаву. Гэты зьвярнуўся да архіяпіскапа Менскага Анатольюша з просьбай расьсьледаваць справу. Менскі архіяпіскап дазволіў правіць набажэнствы ў чэсьць мучанікаў, а да мошчаў наказаў не

# „Руская зямля“

(Працяг з 6-ай бачыны)

ўзяць пад увагу, што сярод першых нашых адраджэнцаў была не малая колькасьць шляхты, якія — здавалася-б — мусілі быць больш адпорнымі на маскоўскую прапаганду яўную і скрытую, і адразу вынюхаць, дзе тут зарыты сабака. Шляхцюкі аднак, што ўліваліся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух, рабілі гэта, як ведама, з увагі на свае левыя пагляды, а гэтая іхная лявізна якраз і перашкаджала ім глянуць на гісторыю беларускага народу не з клясавага, але з нацыянальнага боку. Варожа адносячыся да клясавай дзяржаўнасьці ў сучасным, яны нэгатыўна ставіліся і да клясавай дзяржаўнасьці ў мінулым, а такое вульгарнае дачыненьне да гісторыі наогул, зразумела, што не магло памагчы ані ім, ані тым больш выхадцам зь сялянскага асяродзьдзя, выявіць зь гісторыі роднага краю нацыянальную гісторыю беларускага народу. Гісторыя, пісаная нашымі адраджэнцамі, гэта быў той самы západна-руссізм, толькі ў беларускай моўнай вопратцы.

Сягоньня ў нас на гістарычным фроньце мала што зьмянілася. Да старых клясавых акуляраў, якія — зацямняючы пагляд на нашу гісторыю — не пазвалялі дагэтуль належна расправіцца з заходна-руссізмам, дайшлі цяпер яшчэ акуляры рэлігійныя, якія таксама нам у гэтай справе памогуць, як кашаль у хваробе. І калі нам кажуць, што мы, як эмігранты і «амбасадары», мусім шырэй папулярызаваць нашу гісторыю сярод чужынцаў, паўстае пытаньне: а ці гэтая нашая прапаганда ня будзе вадой на чужы млын?

✳

У 1951 годзе савецкая Акадэмія навук выдала кніжку савецкага гісторыка А. Н. Насонава: «„Русская земля“ и образование территории древнерусского государства», (Историко-географическое исследование). З увагі на тое, што кніжка гэтая апертая на шырокім першакрынічным матарыяле, я пазволю сабе ніжэй прывесьці адтуль некаторыя вытрымкі ў справе тэрміну «Руская зямля»:

«Тэрыторыяльны абсяг старой летапіснай «Рускай зямлі» (або «Русі» ў тэрытарыяльным разуменьні) мы можам вызначыць у прыбліжэньні:

«Ноўгарад не называлі ні «Русьсю» ні «Рускай зямлёй» на паўдні (у Кіеве), а таксама і ў самым Ноўгарадзе. Растова-Суздальская зямля, а таксама і Разань процістаўляюцца «Русі» і ў паўднёвым летапісе і ў паўночна-ўсходнім.

«Смаленск ня лічылі ні «Русьсю», як відаць зь Іпацкага летапісу пад 1155 і 1197 г., ні «Русскай зямлёй» (Іпацкі л., 1174 г.). Таксама ня лічылі, што Полацкая воласьць уваходзіць у склад «Рускай зямлі», як сьветчыць Іпацкі летапіс пад 1140 годам. («В то же время изыдоста княжича два (Кривитьстеи князе) из Царяграда, заточени были Мстиславом, великим князем Киевским, зане не бяхуть его воли и не слушахуть его, коли е зовяшецъ в Рускую землю в помощь, но паче молвяху Бонякови шелудивому во здоровье»).

«У Лаўрэнцкім летапісе пад 1203 г. процістаўляюцца «Рускай зямлі» Галіч і Валадзімер-Валынскі, а ў Іпацкім пад 1174 г. — Берлад. Але найцікавей, што да «Русі», да «Рускай зямлі» не залічалі зямлю дзераўлян зь іх горадам Аўручом, а таксама і Перынск на верхняй Ацэ ў зямлі вяцічаў.

«... Такім чынам, абсяг «Русі», «Рускай зямлі» вызначаецца тэрыторыяй Пераяслаўльскай воласьці, воласьці Чарнігаўскай, за выняткам паўночных і паўночна-ўсходніх яе частак, і Кіеўскай воласьці, бязь дзярэўскай і дрыгавіцкай земель.



Віктар Жаўняровіч: «Палескае прадвесьне»

«... Устойлівасьць тэрміну, як тэрміну геаграфічнага, паказывае, што «Руская зямля» вельмі старога паходжаньня, і паўстала яна, відавочна, не ў XI ст., калі із складу яе выдзяляюцца княствы Кіеўскае, Чарнігаўскае і Пераяслаўльскае, але куды раней.

«Прыглядаючыся да граніц «Рускай зямлі, мы няўхільна прыходзім да высснаву, што граніцы гэтыя ўстанавіліся яшчэ ў умовах хазарскага ярма, слабеючага на працягу другой паловы IX в., што насельніцтва «Рускай зямлі» першапачаткова складалася з тых славянскіх плямёнаў, якія былі падуладны раней хазарам.

«... Усе прыведзеныя вышэй даныя прымушаюць, такім чынам, думаць, што Руская зямля атрымала свой назоў ад імя мясцовага паўдзённага насельніцтва, што імя гэтае мясцовага, спрадвечнага паходжаньня, што яно ў разгляданую эпоху было ўжо народным і магчыма калісь у вельмі далёкім прошлым было пляменным.

«... І так, у X і ў першай палове XI ст. існавала «Руская зямля» з галоўнымі цэнтрамі Кіевам, Чарнігавам і Пераяслаўлем, як палітычнае і тэрытарыяльнае ядро абшырнага Кіеўскага гаспадарства.

«Пад Кіеўскім гаспадарствам звычайна разумеюць гаспадарства, што паўстала ў рэзультаце аб'яднаньня рускага Паўдня і Поўначы на чале зь Кіевам на рубяжы IX і X стагодзьдзяў. Пазьней, з другой паловы XII стагодзьдзя, Кіеў ужо фактычна не панаваў над аддзельнымі часткамі гаспадарства; з гэтага часу Кіеўскае гаспадарства больш правільна называць «древнерусским».»

Паміж гэтым савецкім гісторыкам і царскімі гісторыкамі нарманскай школы існуюць, як бачым, пэўныя розьніцы, як у справе паходжаньня тэрміну «Русь», так і ў справе тэрытарыяльнага ягонага абсягу. Царскія гісторыкі як ведама, уважалі, што Русьсю называліся варагі, якія, прынёсшы дзяржаўнасьць народам усходняй Эўропы, разам з пашырэньнем сваіх заваяваньняў, распашыралі тэрытарыяльна і тэрмін Русь. Савецкія-ж гісторыкі, як большыя патрыёты ад царскіх гісторыкаў, ня могуць выявіць нарманскай тэорыі, ды і марксізм ім гэтага не пазваляе («Государство никоим образом не представляет из себя силы, извне, навязанной обществу»), выводзячы-ж тэрмін «Русь» з паўдня, яны гэтым самым прызнаюць, што «Русь», як геаграфічны тэрмін адносіўся ў старыну не да цэлай усходняй Эўропы, а толькі — згодна сьветчаньняў старых летапісаў — да земляў вакол Кіева. Ня гледзячы аднак на гэта, савецкія гісторыкі, будучы ня горшымі расейскімі патрыётамі ад царскіх гісторыкаў, усё-ж згаджаюцца з гэтымі апошнімі, што ў школьных падручніках старыя княствы ўсходняй Эўропы можна называць сягоньня Русьсю, паколькі гэтыя землі ў той ці іншы спосаб былі залежнымі ад рускага Кіева і паколькі гэта на руку расейскай вялікадзяржаўнай палітыцы.

Кніжка Насонава выйшла ў 1951 годзе. У 1954 годзе Акадэмія пэдагагічных навук РСФСР выдала «Гісторыю СССР» Л. П. Бушчука для настаўнікаў сярэдніх школ, у якой між іншага знаходзім такі абзац:

«Згодна із сучаснымі паглядамі на старарускую народнасьць як на адзіны карэнь, зь якога выйшлі пазьнейшыя Вялікарусы, Украінцы й Беларусы, у новай праграме па гісторыі СССР для VIII клясы выпрацаванай Міністэрствам асьветы РСФСР пры актыўным удзеле Акадэміі пэдагагічных навук РСФСР, ранейшы тэрмін «Кіеўская дзяржава» замяняецца новым тэрмінам «Старажытная Русь» («Древняя Русь»). «Старарyская дзяржава» («Древнерусское государство»).

«Трэба мець наўвеце, што замена старой тэрміналёгіі новай мае вялікае прынцыповае значаньне, бо падчырквае значаньне Старарускай дзяржавы як супольнай гістарычнай калыскі трох вялікіх усходнаславянскіх народаў — расейскага, украінскага й беларускага.

«Паколькі цяпер у савецкай гістарычнай навуцы цьвёрда ўстанавілася паняцьце старарускай народнасьці, як папярэдніцы пазьнейшых Вялікарусаў, Украінцаў і Беларусаў, ранейшы тэрмін «Распад Кіеўскай дзяржавы» трэба прызнаць няправільным, прыніжаючым сьветавае значаньне Старарускай дзяржавы. Распадацца маглі такія дзяржавы, як, прыкладам, імпэрыя Караля Вялікага, якая зьяўлялася канглямаратам плямён і народнасьцяў. У дачыненьні да Старарускай дзяржавы, якая склалася на адносна аднароднай этнічнай аснове, больш падходзіць тэрмін «раздробленьне», расчленение», чымся «распад».

Як бачым савецкая ўлада вельмі паважна адносіцца да справы гістарычнай тэрміналёгіі. Каб настаўнікі ня мелі сумлеваў адносна гістарычнай праўдзівасьці загадаў зьверху, падручнік выразна кажа: «Навучаючы й выхаўваючы нашае маладое пакаленьне, мы не павінны забывацца, што гістарычная навука партыйная й навучаньне яе ня можа быць адарваным ад палітыкі партыі й Савецкай дзяржавы».

✳

А цяпер, хоць адным вокам, каб не дастаць па вушах, гляньма на нашых палітыкаў на эміграцыі. Перада мною брашура ў ангельскай мове, выдана ў 1960 годзе БЦР.

In the middle ages the term „Rus“ was applied to all Eastern Slavs and meant both territory and the people, and when it was necessary to be more precise, the name of the principality was mentioned: Kievan Rus, Polotsian Rus, Muscovian Rus and so on.

„The term „Byela Rus“ was applied to a territory which included a number of principalities, and to its inhabitants, who in the became distinct from other Rus'es (Muscovites, Novgorodians and Ukrainians).

„The term „Russia“ without any adjective but with its present meaning was unknown in English terminology until the beginning of the 18th century, and the territory now known as „Russia“ was called Muscovy or Moscovia. On the other hand, White Russia was indicated in many documents and maps, as early as 1490.“

У перакладзе на беларускую мову гэта абазначае:

«У сярэдніх вякох тэрмін «Русь» адносіўся да ўсіх Усходніх Славянаў і абазначаў як тэрыторыю, гэтак і народ, і калі было неабходна быць больш дакладным, назва княства абазначалася: Кіеўская Русь, Полацкая Русь, Маскоўская Русь і г. д.

«Тэрмін «Белая Русь» адносіўся да тэрыторыі, якая ўключала рад княстваў, і да яе насельніцтва, якія з часам пачалі розьніцца ад іншых Русяў (Маскоўскай, Ноўгарадзкай і Ўкраінскай).

«Тэрмін «Расея» без прыметніка, але ў ейным сяньняшнім значаньні быў няведамы ў ангельскай тэрміналёгіі да пачатку 18 стагодзьдзя, і тэрыторыя, ведамая цяпер як «Расея», была называная Масквой або Маскоўшчынай. З другога боку, Белая Русь паказвалася ў многіх дакумантах і картах, пачынаючы ад 1430 году».

Адным словам, як сказаў-бы Пушкін — здесь русский дух, здесь Русью пахнет». І сапраўды. —

Ці ўсходнія славяне называліся калі Русьсю?

Ці Полацкае княства, як княства крывіцкае, магло калі называцца «Полацкай Русьсю»? («В лето 6635-1127. Того же лета посла князь великий Мьстислав братию свою и сыновъ своих на Кривичъ.» Цьверскі лет.).

Ці тэрмін «Белая Русь», ужываны ў некаторых летапісах, адносіўся да нашай зямлі ці да Суздальскай? («Владимир до днесь чрез семъ месяцев был без князя, и тогда он⁻й видя рост вц і и суздальцы от князей оставлен, презирали и на совет не призывали, говоря: новгородцы, киевляне, смольяне, полочане и вси главные грады издревле на

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

---

дапускаць нікога пастароньняга, каб не паўсталі непажаданыя слухі. Прасіў таксама прыслаць дакладную справаздачу. Павядоміў аб сваёй пастанове губ. Корсакава. Корсакаў увесь матарыял накіраваў у міністэрства Асьветы й Веравызнаньняў, адкуль справа пайшла ў Мін. Нутраных Справаў, у Раду міністраў, Сынод ды адтуль зноў да Менскага архіяпіскапа, дзеля падробных інфармацыяў.

За гэты час Менскі архіяпіскап ужо атрымаў матарыял зь Вільні, і на аснове яго мог даваць справаздачу ў Сынод. Даведваемся зь яе, што мошчы ў добрым стане, што мучанікі былі залічаныя ў лік сьвятых, а целы іх паводля традыцыі былі пахаваныя ў тым месцы, дзе знойдзеныя іх мошчы, і што падробнасьці аб гэтым ёсьць у Жыцьці гэтых сьвятых.

З гэтай інфармацыі вынікае, што манахі Сьвятадухаўскага манастыра ў Вільні, мабыць, папpавілі Жыцьцё мучанікаў, устаўляючы, што «паводля традыцыі» яны былі замучаныя на тым месцы, дзе цяпер царква Сьв. Духа, а не ў сьв. Мікалая, ці сьв. Тройцы. Далей у сваёй справаздачы арх. Менскі прасіў правесьці афіцыяльныя агледзіны мошчаў у прысутнасьці двух япіскапаў і прадстаўнікоў цывільных уладаў. Сынод не адважыўся сам вырашыць гэтай рызыкоўнай справы, дык пераслаў, яе ў васабістую канцылярыю цара Мікалая І. Цар казаў зьвярнуцца шэфу канцылярыі Мураўёву да кн. Канстантына, як да галоўнага начальніка збройных сілў у Польшчы й Ліцьве ды галоўнага адміністратара занятых зямель, у справе ягонай апініі.

Мураўёў пісаў: «не обратить ли на себя невыгодного заключения отъ понятий католической церкви въ Вильне многочисленной, испрашиваемое Святейшымъ Синодомъ открытое и решительное действие Правительства к упомянутымъ темъ нетленнымъ теламъ» ...

Канстантын за пасярэдніцтвам Навасільцава адказаў, што публічнае ўзнаўленьне культу мошчаў мучанікаў пры ўдзеле цывільных уладаў можа выклікаць нявыгадныя толкі для Масквы, ды радзіў пакінуць гэтую справу на разгляд царкоўных прадстаўнікоў без удзелу цывільных уладаў. Цар гэтую прапанову зацьвердзіў.

Такім чынам парадкам таго-ж 1826 г. япіскапы Менскі Анатольюш і Чарнігаўскі Лаўрэнт агледзелі «мошчы» і прызналі іх за аўтэнтычныя. Культ Віленскіх мучанікаў у Сьвятадухаўскім манастыры ў Вільні быў зацьверджаны.

Пасьля скасаваньня ў 1839 г. вунійнай Царквы пачалася акцыя пашырэньня Сьвятадухаўскага культу мучанікаў, як апоры маскоўскага праваслаўя, і на вызнавальнікаў каталіцкай Царквы. Дзеля гэтага была выдадзеная папольску брашура: «Мэнчэнство тжэх Літвінув сьв. сьв. Антонего, Яна, і Эустахэго, умэнчоных в месьце Вільне Року Паньскего 1342». Гэта быў пераклад з маскоўскага выданьня 1749 г.

✳

Размах і ідэялягічнае падмацаваньне ўзьнятаму культу даў мітрапаліт Сямашка ведамы адступнік ад задзіночанай беларускай Царквы і зраднік нашага народу. У 1850 г. казаў ён збудаваць на свой кошт сходы да падзямельля, дзе знаходзіліся «мошчы» мучанікаў (у падзямельлі манастыра пасяньня колькі хочаш мошчаў — астанкаў розных манахаў і вернікаў), а затым збудаваў там-жа капліцу за грошы прысланыя іркуцкім купцом Кузьняцовам (Запіскі Іосіфа Митр. Лит. Петр. 1883, I, 197).

У наступным годзе ў дзень мучанікаў 14 красавіка адбылося першае вельмі ўрачыстае набажэнства ў новапасьвячанай падзямельнай царкве. Вось што пісаў Семашка ў Сынод, абасноўваючы культ Віленскіх мучанікаў:

«Эта святыня (Сьвятадухаўскі манастыр) сохранившаяся как бы чудомъ, заслуживаетъ полного вниманія Православныя Церкви. Можетъ быть въ бедственныя прошлыя времена, изъ столькихъ бывшихъ въ Вильне церквей одинъ только Святодуховскій монастырь устоялъ непоколебимо въ Православіи потому единственно, что самымъ деломъ основанъ на святыхъ мученицехъ. С другой стороны, **это есть видимая точка соединенія здешней страны съ общей Православною Церквою и напоминаніе всякому русскому сердцу, что эта страна издревле не чужда России и Православью»** (Зап. митр. Иос. II, 430; падкрэсьл. маё — В. П.).

У сваім «Слове» Семашка прадставіў гісторыю знаходкі «мошчаў», падкрэсьліў ролю манастыра ў маскоўскім праваслаўі, а што найважнейшае — палітычную накіраванасьць узноўленага культу Віленскіх мучанікаў:

«Вотъ почти у нас на глазахъ, надъ статами богоспасаемаго нашего града, стоит как бы на страже русская православная икона Божія Матери, ныне уже не наша. Вы знаете, Православные, съ какимъ рвениемъ обращается къ ней въ своихъ молитвахъ все здешнее христіанское население самое близкое намъ по сердцу, самое близкое по вере, но, къ нещастию, чуждое по церковному единенію. Не смутное ли воспоминанія прошедшого, не кровь ли праотцевъ, текущая въ ихъ сердцахъ, есть источникомъ сего рвения, сего благовения? И въ нынешнимъ благодатномъ прославленіи святыхъ мощей, не есть ли перст Божій, указующій симъ иноверным братіям нашимъ, что православная, мученическая кровь впервые оросила здешнюю страну и престольный градъ ея, что **страна сія есть древнее достояніе Руси Православной»** (Зап. II, 766).

Так Масква асягнула сваю мэту. Рэлігійная дывэрсія пачатая яшчэ за Альгерда за 500 год дала свой плён, у якім, як казаў Сямашка, Віленскія мучанікі адыгралі вядучую ролю.

✳

І так мы прагледзелі падробна гісторыю трох Віленскіх мучанікаў. Мы бачылі, як паўстала, як разьвівалася, як прышчапілася гэтая маскоўская лягенда ў Вільні ды як яе пераймалі вунійныя дзеячы, думаючы яе паставіць на службу зьяднанай Царкве ды адхіліць яе дывэрсыйнасьць. Але такое штучнае й павярхоўнае адварочваньне ад маскоўшчыны гістарычна не апраўдалася. Прышоў цяжкі час, час пробы духовых сілаў — знайшліся семашкі й іншыя зраднікі, і яны лёгка аднавілі старую маскоўскую зброю ў мэтах духовага паняволеньня нашага народу.

Навука гэта для нашых часоў. Сяньня, калі нанава адраджаецца наша нацыя ў цяжкай барацьбе з адвечным ворагам той-жа самай Масквой, калі надалей ідзе пасяганьне на заваладаньне нашай душы старымі й новымі спосабамі, народ наш ня можа сам убіваць гвозьдзяў у дамавіну, рыхтовану нам Масквой. Масква, дарма што бязбожная, не пагарджае й старой сваёй зброяй — рэлігіяй ды Віленскіх мучанікаў выкарыстоўвае для старой мэты. У той час, калі мошчы сьв. Афрасіні Полацкай, Патронкі Беларусі, маскоўскія злачынцы зьнішчылі й яе культ забаранілі, то фікцыйныя мошчы выдуманых сьвятых прыпадносяцца зноў у Вільні да вялікіх сьвятасьцяў з культом у духу Сямашкі. 30 студзеня 1949 г. зь вялікімі ўрачыстасьцямі бальшавіцкія служкі перанясьлі «мошчы» мучанікаў зь верхняй царквы сьв. Духа ў пяччэрную капліцу Сямашкі, дзе адкрыты сталы публічны культ мучанікаў. Ці мы ў вольных краінах, пры дапамозе гэтай маскоўскай дывэрсіі маем выхоўваць Маскве нявольнікаў і гэтым памагаць ёй у дасягненьні яе мэтаў?

**В. Пануцэвіч**

# Зь беларускага жыцьця

## Беларускія вэтэраны ў Нью Ёрку

12 сакавіка 1961 г. адбылося паседжаньне ўправы Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Нью-Ёрку. Галоўным пунктам парадку дня была справа ажыўленьня дзейнасьці арганізацыі. Старшыня ўправы сп. Ул. Курыла паставіў на абмеркаваньне цэлы рад канкрэтных пытаньняў:

**а) Залажэньне новых аддзелаў ЗБВ.** У шмат якіх местах Амэрыкі аддзелы ЗБВ павінны быць адноўленыя. Справа гэтая пакуль што ўпіраецца ў пытаньне статуту, які знаходзіцца цяпер у стадыі перапрацоўкі ў сувязі з наплывам у арганізацыю маладых Беларусаў — вэтэранаў амэрыканскага войска. Пастаноўлена зьвярнуцца да Статутовае камісіі з просьбай прысьпешаньня працы над статутам (над ягонай асноўнай часткай, дзе гаворыцца пра мэты арганізацыі, — каб можна было пачынаць заходы для засноўваньня новых аддзелаў).

**б) Новы штандар.** ЗБВ у Нью-Ёрку мае цяпер штандар, прывезены зь Нямеччыны (зь Віндзішбэргердорфу). Новы характар арганізацыі вымагае цяпер новага штандару. Пастаноўлена безадкладна заняцца гэтай справай у паразуменьні із Статутовай камісіяй (старшыня ген. Фр. Кушаль).

**в) Складкі.** Скарбнік новае ўправы сп. Аўген Лысюк узяўся энэргічна за справу складак (50 цэнтаў месячна), і трэба спадзявацца, што сябры ЗБВ падтрымаюць яго ў гэтым высілку.

**г) Вэтэранская вечарына.** З мэтай ажыўленьня духу ды ўзмацненьня фінансавае базы, ньюёркаўскія вэтэраны пастанавілі наладзіць у першую сыботу па праваслаўным Вялікадні вэтэранскую вечарыну ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне, спадзяючыся, што на вечарыне будзе людна, бо гэта будзе свайго роду першае вэтэранскае гульбішча. Бязумоўна, у праграме танцаў на ганаровым месцы побач з чачай будзе марш.

**д) Парад ляяльнасьці.** Як штагоду, беларускія вэтэраны возьмуць актыўны ўдзел у сёлетнім парадзе ляяльнасьці, што адбудзецца ў сыботу 29 красавіка. Практычны бок гэтага пытаньня (асабліва справа ўніформаў) будзе абмяркоўвацца на вэтэранскім сходзе, які запляннована склікаць на нядзелю 2 красавіка сёлета (у Грамадзкім Цэнтры пасьля царкоўнае службы). Сход будзе адкрыты для ўсіх, хто цікавіцца парадам ляяльнасьці наагул.

е) Управа ЗБВ у Нью-Ёрку пастанавіла дэлегаваць свайго старшыню сп. Курылу ў **Камітэт увекавечаньня памяці** нядаўна памерлага слуцкага паўстанца а. Хведара Данілюка. Управа ЗБВ трымаецца, аднак, пагляду, што грамадзкае ўвекавечаньне памяці вялікага беларускага патрыёта й змагара, якім быў праз цэлае сваё жыцьцё а. Хведар, павінна было-б быць зробленае не праз стаўленьне надмагільнага каменя (гэта магло-б быць зроблена прыватным парадкам), але праз прысьвяту а. Хведару Данілюку кніжкі аб Случчыне й Слуцкім паўстаньні. Як ведама, ужо існуе праект выданьня Слуцкага Альманаху — справа, за якую ўзялося ЗБМА і рэдкалегія «Беларускае Моладзі». Усё гэта, аднак, вельмі добра можна было-б спалучыць разам — каб памяць аб удзельніках нацыянальна-вызвольнага змаганьня ня была зрэдукаваная да наведванага абмежаванай колькасьцяй асобаў надмагільнага помніка, але каб друкаваным словам шырыла праўду па сьвеце ды заклікала **ўсіх** Беларусаў несьці далей штандар, пад якім ішоў у 1920 годзе малады ахвіцэр Хведар Данілюк. Разьвязаньне ў гэтым кірунку справы грамадзкага ўвекавечаньня памяці а. Хведара магло-б павярнуць у другі, карысьнейшы бок народжваную традыцыю грамадзкага стаўленьня надмагільных помнікаў, якія, пэўна-ж, будуць перахоўваць памяць, але якія, неяк, перагароджваюць дарогу ў жыцьцё тэй крылатай справе, за якую людзі змагаліся, дый самую памяць звужаюць — тады, калі гэтая памяць можа быць увекавечаная непараўнальна трывалей друкаванымі выданьнямі.

**Я. Запруднік**
сакратар ЗБВ

**ПАДЗЯКА**

**Усім беларускім арганізацыям і прыватным асобам, якія прыслалі нам свае прывітаньні з нагоды нашага нацыянальнага сьвята 25 Сакавіка, складаем на гэтым месцы нашую шчырую падзяку.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**



# Зь беларускай песеннай скарбніцы

## Дзяўчынанька шуміць гай

**(Лірычная бел. нар. песьня)**




1. Дзяўчынанька шуміць гай (2 разы)
Каго верна любіш, не забывай. „
2. Няхай шуміць, хай гудзе, „
А хто верна любіць, той сам прыйдзе. „
3. Дзяўчынанька, адчыні, „
Хаця-ж мае сэрца разьвесялі. „
4. Я ня буду адчыняць, „
Бо захочаш ночаньку начаваць. „
5. Ой, ня буду начаваць, (2 разы)
Пасяджу я трошачкі, пайду спаць. „
6. Мы сядзелі да зары, „
Пакуль стала відненька на дворы. „
7. Узышоў месяц і зара, „
Аставайся мілая здарова. „

**Заўвага:** Арыгінальная мэлёдыя ідзе першую палову (да Хору) у верхнім голасе, другую палову (ад Хору) — у сярэднім голасе.

## Ой, ляцелі гусі

**(Бел. лірычная нар. песьня)**




1. Ой, ляцелі гусі з далёкага броду.
Селі на Дунаі скалацілі воду.
2. Бадай тыя гусі марна запрапалі,
Як мы любіліся, — цяпер перасталі.
3. Як мы любіліся нас бяда ня знала,
Цяпер разыйшліся, як чорная хмара.
4. Чорна хмара ідзе, дробны дожджык будзе,
З нашага каханьня нічога ня будзе.
5. Ой, ляцелі гусі...

**Заўвага:** Арыгінальны напеў даецца ўвесь час у верхнім голасе.

# „Руская Зямля“

**(Заканчэньне зь 7-ай бачыны)**

общей совет пригородов не призывали, и что уложат оные, потому должны и пригороды исполнять, в Белой же Руси старейшие грады Ростов и Суздаль, а Переяславль, и Владимир и прочие суть пригороды сих двух, того ради их совета не потребно слушать.» С. Соловьев, I, 723). П

Ці тэрмін «Alba Russia», паявіўшыся на італьянскіх геаграфічных картах ад XV в., адносіўся да нашай літоўскай зямлі, ці да маскоўскай? (1473 год: «Великому Каллисту, первосвятителю рымскому, Иоанн, великий князь Белой Руси, поклон шлет, молит послом его верить.» В. Язвицкий «Иван III», 3, 473).

Бязумоўна, што БЦР, як штандаровая арганізацыя ваюючых эпігонаў заходнарусізму, бадай ці калі зразумее, што беларускі нацыянальна-вызвольны рух ня ёсьць нейкім бунтам сялян Валагодзкай губэрні, і што афішавацца перад чужынцамі сваімі «Русямі» ўсіх колераў і адценкаў, пры адначасовым сыстэматычным аплёўваньні гістарычных Крывічоў ды аддаваньні задурна гістарычнай Літвы жамойцам, гэта нічога іншага, як..., але ня ў гэтым справа. Справа ў тым, што рак западна-руссізму, які мы атрымалі ў спадчыне ад доўгай маскоўскай няволі, не зьяўляецца ўсё-ж манаполем толькі БэЦэРу, рак западна-руссізму разьядае нашыя мазгі, ня гледзячы на нашыя груповыя ці рэлігійныя падзелы. Найгоршае аднак тое, што мы ня толькі дасюль ня выпуталіся з гэтай бяды, але і самой бяды ня хочам бачыць.

**Часлаў Будзька**

# Гадавы сход Беларускай Касы Самапомачы

Месяц люты штогоду стаўся ўжо традыцыйным месяцам гадавых сходаў Касы Самапомачы ў Таронта. Сёлетні сход адбыўся ў нядзелю 26-га лютага ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру, які вёў сп. В. Касьцюкевіч (ён быў старшынёю Дырэкцыі Касы ў мінулым годзе).

Скарбнік Касы — сп. К. Чорны адчытаў справаздачу аб прабегу працы Касы за мінулы год, і як было бачна, ня гледзячы на каньюнктурныя абумоўленьні, гадавы абарот Касы склаў 116 тыс. 189 дал. 13 цэнт., крыху ніжэй, як у папярэднім годзе. Добрай навінай было ўвядзеньне вольнай чэкавай сыстэмы ў пяршыню, калі кажны сам мог выпісваць собскі чэк на розныя аплаты, як гэта робіцца і ў банках данай краіны, пры гэтым ашчаджуючы на кажным чэку 5 цэнтаў.

Чэкавая сыстэма была адобраная сходам і на наступны год з тым, што пайшчыкі будуць часьцей іх ужываць, што дасьць абніжку аплаты за карыстаньне імі Цэнтральнай Касе (кошт у год 100 дал.). У выніку было запрапанована на ашчаднасьці: на ўдзелы 4% і 3% на ўклады, што й было адобрана большасьцю галасоў.

За Пазычковую Камісію з справаздачай выступіў сп. Ю. Слаўко, і як было бачна, за мінулы год было адобрана 9 пазычак ад 60 дал. да 2.795 дал.

Спадар М. Арцюх зачытаў заключны пратакол Кантрольнай Камісіі, паводля якога праца вялася належным парадкам, а ў васаблівасьці была падкрэсьлена ахвярнасьць Скарбніка сп. Я. Чорнага. На будучыню жадалася прыдбаньня большай колькасьці пайшчыкаў, як і пашырэньня рэклямаў аб усіх выгадах ашчаджаньня й пазычак, а таксама цясьнейшага кантакту з Цэнтраляй, як і браньня ўдзелу на канфэрэнцыях і сэмінарах нашых прадстаўнікоў, і інш.

Наступна выглядае склад Дырэкцыі Касы Самапомачы на 1961 год: Сп. сп. А. Маркевіч — старшыня, А. Грыцук — заступнік, Я. Чорны — скарбнік, А. Слаўко — сакратар, В. Крыванос — сябра.

Пазычковая Камісія: Сп. сп. М. Ганько, Ю. Слаўко й С. Ліс.

Кантрольная Камісія: Сп. сп. д-р В.П Навіцкі й Н. Сільвановіч. Сход прызнаў адыйшоўшай Дырэкцыі Касы абсалюторыюм з падзякаю й на гэтым быў закончаны. У дадатак падаецца, што гадзіны ўрадаваньня скарбніка застаюцца бяз зьмен, г. зн.: кажнае пятніцы ад 8-ай веч. і ў нядзелю па паўдні.

### СЯБРОЎСКІ ВЕЧАР

У сувязі зь вялікім постам было пастаноўлена Ўправаю ЗБК рабіць у міжчасе сяброўскія вечары, і адным такім зь вечароў быў зладжаны ў суботу 4-га сакавіка ў залі БР-ГЦ у Таронта, на які зышлося шмат жадаючых.

Вечар сам па сабе быў надзвычайна ўдалы, тым больш, што за «ўступны» даляр кажны атрымаў добры гарачы падвячорак з напіткам і ў дадатак мог узбагаціцца жартамі, гумарам і іншымі «вайстротамі», як і паслухаць гру на акардыёне або калектыўна пасьпяваць свае родныя песьні. У сувязі з гэтым варта тут адзначыць кухарства сп-ні Ніны Чорнай, таксама ўмелае «дырыгаваньне» гумарам сп. А. Грыцуком (тут прабавалі сваё «я» й іншыя!), як і сп. К. Акулу зь ягоным зачытаньнем свайго даўжэзнага вершу-пародыі, ну, і хіба «мучэньне» за буфэтам А. Маркевіча. Тут-жа на Вечары адзін з прысутных Украінцаў з собскай ініцыятывы сабраў на Царкву 22 дал. І перадаў беспасярэдня а. Міхалу, што ёсьць вельмі добрым учынкам з боку вельмі прыхільнага нам спадара. Як ужо ўспаміналася, Вечар быў надзвычайна ўдалы, прыбытак зь яго ў суме 30 дал. прызначаны на Сакавіковую радыяперадачу.

### БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ ДЛЯ ВІННІПЭГУ

Вініпэская Гарадзкая Бібліятэка закупіла ў месяцы лютым сёлета поўны камплект беларускіх кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчыны» для собскай іншамоўнай калекцыі на прапанову аўтара гэтых радкоў, у выніку чаго яшчэ было даслана туды бясплатна гэтымі днямі 7 іншых кніжак, за што была выказаная пісьмовая падзяка. Падзяку выказала й Мантрэальская муніцыпальная бібліятэка за нядаўна бясплатна падараваныя 3 кніжкі. Таксама нядаўна ў дарунак у Таронта атрымалі: музычная бібліятэка й каралеўская музычная кансэрваторыя, за набыцьцё беларускіх кружэлак і сьпеўнікаў, па 1 экз. «Беларуская Музыка», а Таронцкі Міжнацыянальны Інстытут атрымаў кніжку А. Рычардсона, ахвяраваную сп. Н. Сільвановічам, і працу д-ра В. Кэя.

### НА ПРЫНЯЦЬЦІ ЭТНІЧНАЙ ПРЭСЫ

Шматлікія прадстаўнікі этнічнай прэсы былі прынятыя ў нядзелю 12-га сакавіка гг. у доме Дырэктара Міжнароднага Інстытуту ў Таронта Місіс Нэл Вэст, на якім прысутнічалі й прадстаўнікі Правінцыйнага Міністэрства Грамадзянства сп. сп. Давідовіч і д-р Охітва, якія паінфармавалі аб плянах і намерах Міністэрства ў дачыненьні да Новых Канадыйцаў. Місіс Вэст паінфармавала аб далейшых плянах Інстытуту. Вельмі прыемна было даведацца, што Інстытут гэтымі днямі распачаў фэстываль лепшых заграгічных кінафільмаў у розных мовах кажнае пятніцы й суботы а 8,30 увечары, а таксама кажнае нядзелі (для ўсёй правінцыі гэта — навіна!) а 4-ай пп. Адрас Інстытуту такі: 709 Каледж вул. Таронта 4. Наагул аб дзейнасьці гэтай установы падасца падрабней у ваднымз пазьнейшых нумароў «Б-ны». На ўспомненым прыняцьці, як прадстаўнік ЗБК і газэты «Б-ны», быў запрошаны А. Маркевіч.

**А. -віч**

Фэльетон

# „Калгас імя Савецкай Улады“

**(З радыёвай хвалі «Свабода»)**

У парадку гэтак званага ўзбуйненьня калгасаў, суседнія калгасы «Гігант» і «Шлях да камунізму» аб'яднаціся ў вадзін.

На парадку дня першага сходу двух аб'едналых калгасаў стаялі дзьве праблемы: прыняцьце новых сацыялістычных забавязаньняў і праблема назову новага калгасу.

З забавязаньнямі ня было ні вялікіх клопатаў, ні вялікіх дыскусіяў. З раёну прыслалі дырэктывы, якія забавязаньні мусіць узяць калгас згодна з студзеньскім пленумам ЦК КПСС. Да гэтага-ж у кажным калгасе ёсьць гэтак званыя «штурхачы» або заядлыя актывістыя. І вось калі на сходзе прачыталі дырэктывы з раёну, голас узялі брыгадзір Нічыпар Казёл і цялятніца Ягнеша Недапечка. Яны згодным хорам заявілі, што дырэктывы з раёну вельмі-ж сьціплыя і што яны, маючы наўвеце хутчэйшы пераход да камунізму, забавязваюцца перавыканаць раённыя нормы на 37,5 працэнтаў.

Тут ужо ня вытрываў просты калгасьнік Рыгор Канцавы й сказаў:

— Ягнеша, у тваім цялятніку ўжо сёлета зьгінула з-за недагляду 15 цялят. А тыя пяць, што яшчэ быццам-бы жывуць, таксама, маўляў, «глядзяць на паповыя сані». Як-жа ты выканаеш свае забавязаньні?»

— Не твая справа, ты дэструкцыйны элемэнт! Я забавязваюся перад роднай партыяй і савецкай уладай! — злосна адказала Ягнеша. Такім чынам забавязаньні былі прынятыя, хоць усе добра ведалі, што яны ня будуць выкананыя.

Другі пункт парадку дня выклікаў вялікія цяжкасьці й гарачыя дыскусіі. Ніводзін з двух папярэдніх назоваў аб'еднаных калгасаў не падабаўся ўдзельнікам сходу. Назваць калгас «Гігантам» — курам на сьмех: калгас задоўжаны ў Дзяржаўным Банку па вушы, ужо цяпер у пачатку сакавіка калгасная жывёла пераведзеная на паўгалодны паёк, калгас ня выконвае ні плянаў, ні забавязаньняў і — раптам назоў «Гігант». Праўда, савецкія кіраўнікі ўмеюць рабіць з голкі вілы, але ўсё-ж калгасьнікам было сорамна назваць пігмэя гігантам.

Назоў «Шлях да камунізму» насоўваў яшчэ большыя сумлевы. Бо-ж усім ведама, што ўжо ў камуністычным блёку існуюць аж тры шляхі да камунізму: хрушчоўскі ў Маскве, мао-тсэ-дунаўскі ў Пэкіне і цітаўскі ў Белградзе. І раптам нейкі чын захоча прычапіцца ды казуістычна папытацца: — А які-ж ваш шлях да камунізму? — Могуць быць прыкрасьці...

Дыскутавалі доўга й горача. Урэшце атрымаў слова наш знаёмы Рыгор Канцавы. Ён сказаў:

— Высокае начальства! Таварышы! Прыгадаем гісторыю нашага калгасу і можа з гэтага зробім пэўныя высновы. Як ведама, наш калгас спачатку меў імя Ягоды. Нам гаварылі, што гэта «вучань і паплечнік геніяльнага Сталіна». Ягоду раптам зьліквідавалі і на ягонае месца прыйшоў яшчэ большы вучань і паплечнік Сталіна — Яжоў. Вось і мы перайменавалі наш калгас на імя Яжова. Яго таксама зьліквідавалі. Потым прыйшоў ужо ня толькі «вучань і паплечнік», але й суайчыньнік Сталіна — Бэрыя. Мы назвалі наш калгас імем Бэрыі. Шлёпнулі й Бэрыю, выявіўшы пры тым, што нібыта гэты паганы тых 39 гадоў быў агентам замежных разьведак... Тады пры ўладзе стаяў «найбольш верны, найбліжэйшы вучань і паплечнік Сталіна» — Маленкаў. Дык вось мы й назвалі наш калгас імем Маленкава. Неўзабаве Маленкаў выявіўся антыпартыйным гібрыдам і яго заканапацілі недзе там, дзе і камар цялят не пасе... Мы ізноў мусілі мяняць назоў калгасу. Вось якая доўгая гісторыя нашага калгасу! Дык калі ўжо ў нас усё так ідзе, давайце назавем наш калгас: «Калгас Імя Савецкай Улады». Можа перажывем...

Рыгор Канцавы, пэўна-ж, не сказаў: «можа перажывем і савецкую ўладу», але разумныя дадумаліся, што ён меў наўвеце.

Такім чынам вялікай бальшынёй галасоў была прынятая прапанова Рыгора Канцавога, і калгас назвалі Калгасам імя Савецкай улады...

**пс**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St. Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76 Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon. Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**